# СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА

## П'ЯНСТВУ-БОЙ!
### Лявон Вольскі




тэма
## BACK in BSSR





**Студэнцкая думка № 3 (75) 2002 г.**

**Заснавальнік:** грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"
**Выдавец:** рэдакцыя "Студэнцкай думкі"

**Галоўны рэдактар**
Ірына Віданава

**Рэдактары**
Мікола Шакель
Сяргей Сахараў

**Стыль і карэктура**
Алесь Кастыка

**Дызайн вокладкі**
Уладзімер Пакацілаў

**Вёрстка** Mikalaus

**Адрэса рэдакцыі:** вул. Дарашэвіча, 4-2, 220013, г. Менск
Тэлефон рэдакцыі: (017) 213-22-19
Пэйджэр : 206-75-75, абанэнт 1823
Адрэса для допісаў: 220030, г. Менск 30, п/с 90
**Адрэса ў Інтэрнэце:**
www.studumka.com
**E-mail:** studumka@tut.by

Часопіс выходзіць з 1924 г.
Зарэгістраваны ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь.
Пасьведчаньне № 1296 ад 13.04.1999 г.
Меркаваньні аўтараў часопісу не заўсёды супадаюць зь меркаваньнем рэдактара і рэдакцыі. Нягледзячы на тое, што ў працэсе падрыхтоўкі нумару фактычныя дадзеныя строга кантралююцца, рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць апублікаванай інфармацыі, а таксама за розная кшталту наступствы, зьвязаныя з апублікаванымі матэрыяламі.
Правамі на матэрыялы валодае рэдакцыя часопісу "Студэнцкая думка".
Пры перадрукоўцы матэрыялаў спасылка абавязковая.
Тэксты, якія не замаўляліся, рэдакцыя не вяртае.

Надрукавана ў ТАА "Палікрафт", 220113, г. Менск, Я.Коласа, 73.
Ліцэнзія ЛП № 394.
Фармат 60x84 1/8
Папера афсэтная 80 г/м2
Падпісана ў друк 16.04.2002
Замова № 798
Наклад 3300 асобнікаў
Кошт свабодны.

З надыходам вясны душы народжаных у БССР апаноўвае пачуцьцё сусьветнае nostalgie. Профі-сьвяты мужчынаў і жанчынаў, за імі - дзень касманаўтыкі, пасьля - дзень народзінаў Ільіча. Па хуткім часе пралетары запоўняць плошчы першамайскімі калёнамі.

Welcome **BACK in BSSR**, шаноўны таварыш! Тэма гэтага нумару - своеасаблівы падарунак нашай масавай падсьвядомасьці, якая дзясятак год таму надзімала разам з намі рознакаляровыя пухіры і выходзіла на "дэманстрацыі". Безь ідэалягізацыі, рамантызацыі ці хаяньня - проста зірнем яшчэ раз на тыя часы. І на тое, што засталося ад іх сёньня.

Старэча Дарвін дужа б усьцешыўся, пачытаўшы матэрыял ***ALES'ki*** пра эвалюцыю **лайфстайлу ў Савецкай Беларусі 60-70-х** мінулага стагодзьдзя. А ты маеш магчымасьць прасачыць эвалюцыю сваіх літаратурных густаў - тут табе дапаможа нататка **Віктара Жыбуля** пра **беларускі савецкі дзіцячы бэстсэлер**. Нашыя былыя **браты па сацлягеры** таксама час ад часу схільныя даставаць і дэманстраваць свае атавізмы. Гэтыя працэсы рэгіструе ***Катарына Яновіч***. А беларускі істэблішмэнт з падачы той жа ***ALES'ki*** займаецца **прафарыентацыяй**, для чаго вяртаецца ў 1961 год. Ну і адмыслова для гурманаў - **copyart-сэсія "Прадуктовая насталгія"**.

Апроч тэмы нумару - шматлікія іншыя **пункты** прыпынку. Месцы іх знаходжаньня ты можаш пасьпяхова вызначыць з дапамогай **зьместу** ➔

## WWW.STUDUMKA.COM

## Самая слушная думка ў нэце!

**Набываючы часопіс "CD", патрабуйце дысконтную карту INTERCARS. Па ёй вы атрымаеце зьніжкі на квіткі "INTERCARS" - у дадатак да тых зьніжак, якія ўжо існуюць.**

**У гэтых месцах "Студэнцкая Думка" раздаецца бясплатна:**
- аўтобусы "INTERCARS" і офіс "INTERCARS" (Менск, пр. Машэрава, 19, оф. 1-6)
- крама "LEVI'S" (Менск, пр. Скарыны, 48)
- крама "ПОДЗЕМКА" (Менск, пр. Скарыны, 43)
- крама "EXTRA" (Менск, вул. Танкавая, 3)
- крама "БУНКЕР" (Менск, вул. Казлова, 14)
- крама "CAMELOT" (Менск, пр. Скарыны, 44)

# ЗЬМЕСТ



# METROPOLITAN MODEL AGENCY

## і часопіс СТУDЭНЦКАЯ DУМКА

абвяшчаюць конкурс

# CD-MODEL'2002

## адмыслова для дзяўчат!

**Трэба толькі патэлефанаваць (017) 226-98-24 альбо даслаць сваё фота (ці відэа) на адрэсу: 220004, Менск пр.Машэрава, 19, оф. 21-22,**

Мадэль: Вольга Сідарэнка, пераможца конкурсу Metropolitan Top Model Belarus 2001

## і ты - у Парыжы!

**Умовы:**

- узрост: 15-23 гады
- рост: 172 см і вышэй
- гэта датычыцца і прафэсійных мадэляў, і тых, хто толькі марыць пра такую кар'еру

**Пераможцу чакаюць:**

- стажыроўка і фотаспробы ў Парыжы - у сусьветна вядомай мадэльнай агенцыі METROPOLITAN MODEL AGENCY
- прызы ад спонсараў
- камфортны пералёт у Парыж і назад на аўтобусе INTERCARS

**Удзельніцы атрымаюць:**

- прыемныя сувэніры
- шанец трапіць у базу дадзеных METROPOLITAN MODEL AGENCY





## Конкурс"CD-MODEL'2002" працягваецца

**А мы па-ранейшаму старанна загінаем пальцы на абедзьвюх руках, пералічваючы ўсіх шматлікіх спонсараў CD-MODEL. Такім чынам...**

Фірма **"INTERCARS"** (Менск, пр. Машэрава, 19, каб. 1-6, т.226-93-05, 226-97-80) прэзэнтуе квіток "Менск-Парыж-Менск" для пераможцы конкурсу.

Выставачны цэнтар **"Олимп"** (Менск, вул.Я.Коласа, 3, т.239-33-35) дорыць набор касмэтыкі.

Страхавая кампанія **"АльВеНа"** (Менск, пр.Скарыны, 39, т.284-82-16; вул.Маякоўскага, 14, т.210-28-36; пр.Скарыны, 164, т.202-91-38) страхуе пераможцу.

У краме **"LEVI'S"** (Менск, пр.Скарыны, 48, т.213-45-62) адбудуцца здымкі пераможцы.

УП **"Элита-Сервис"** (Менск, пр.Машэрава, 75, к.1, т.250-29-55, 250-26-39) прэзэнтуе паслугі цырульніка і візажыста.

Курсы **"Step by step"** (Менск, вул.Калініна, 6, т.266-24-09) прапануюць пераможцы 20 гадзін заняткаў замежнай мовай.

Крама **"EXTRA"** (Менск, вул.Танкавая, 3), а таксама крама **"Подземка"** (пр.Скарыны, 43, т.213-40-36) прэзэнтуюць модныя нагавіцы альбо спадніцу - на выбар.

Крама **"CAMELOT"** (Менск, пр. Скарыны, 44, т.284-30-14) прапануе абутак.

**"ДанКард-БР"**, афіцыйны прадстаўнік брытанскай кампаніі **"Countdown SA Ltd"** (Менск, вул.Чычэрына, 19, оф.204, т./факс 239-42-78) прэзэнтуе дысконтную карту "Countdown" (сыстэма зьніжак).

Інфармацыйная падтрымка конкурсу - рэклямнае аб'яднаньне **"АлВит"** (Менск, вул.Чкалава, 38, корп. 1, т./факс 222-58-02).

Усіх удзельніц конкурсу чакаюць сувэніры ад **Metropolitan Model Agency** - майкі, асадкі, календары і г.д. Да таго ж, ты маеш рэальны шанец трапіць у базу дадзеных Metropolitan Model Agency, а значыць, заявіць пра сябе ў мадэльным бізнэсе.













Мадэль: Натальля Барысава METROPOLITAN MODEL AGENCY

# 60-70-я: LIFESTYLE in Soviet Belarus

ALES'ka

**Гартаючы фотаальбомы бацькоў ці савецкія часопісы модаў, міжволі ловіш сябе на думцы: усё ўжо было. Гэты штамп, убіты нам у мазгі эпохай постмадэрну (якая, да жалю, на нашых родных прасторах задужа зацягнулася), дагэтуль спараджае эклектыку ў адзеньні й стылі жыцьця, сынкрэтызм у мастацтве. Яно няблага, але нярэдка – ізноў да жалю – зьявы гэтыя мяжуюць са звычайнай безгустоўнасьцю. Сьцёршы межы паміж рэчамі ды зьявамі рознага парадку, постмадэрн тым самым зьнішчыў іхную адметнасьць, аўтэнтычнасьць. І сьвет паўстаў перад вачыма "чалавека з вуліцы" стракатаю мазаікай, асобныя фрагмэнты якой разгледзець цяпер ужо цяжка. Але сытуацыя не фатальная: варта толькі паспрабаваць замяніць цьверджаньне ЎСЁ ЎЖО БЫЛО пытаньнем ШТО І КАЛІ БЫЛО?. Сёньня "CD" спрабуе "адсачыць" некаторыя элемэнты беларускага савецкага лайфстайлу 60–70 гг. мінулага стагодзьдзя. Welcome back!**

## СТЫЛЯГІ

Калі гаворка заходзіць пра шасьцідзясятыя гады, першымі прыгадваюцца **стылягі**. На прасторах адзінага і магутнага стылягі зьявіліся пасьля 1961 году. Хлопцы насілі вузкія нагавіцы-**"дудачкі"**, дзяўчаты - вузкія спадніцы. Вузкія нагавіцы яшчэ зваліся **"макаронамі"**. Існаваў жарт, што, каб у іх улезьці, трэба было **намыльваць ногі**. Абавязковым атрыбутам стылягаў былі **раскосыя акуляры**. Зьверху насіліся навыпуск кашулі яркіх колераў з экзатычным малюнкамі - напрыклад, пальмамі. Да гэтага дадаваліся гальштук ці шыйная хустка з выявамі тых жа, умоўна кажучы, пальмаў. Туфлі стылягаў мусілі быць абавязкова лакіраванымі і з вузкімі насамі. Хлопцы-стылягі стрыгліся **"пад вожыка"**, а паненкі насілі **"конскі хвост"**.

## БІТЛОЎКІ, КЛЁШЫ

1963 г. лічыцца годам нараджэньня бітламаніі. Звычайных "патлатых" пачалі клікаць **"бітласамі"**. Моднікі (у народзе - **"фарсуны"**) пачалі насіць бітлоўкі - пінжакі без каўнярoў. Зьявілася нават прымаўка - "ад бітлоўкі каўнер", што значыла нешта накшталт дзіркі ад абаранка. А тое, што мы сёньня завем гольфам, мела назву **"вадалазка"**.



Паступова ў моду пачалі ўваходзіць раскляшоныя нагавіцы. Шыліся яны з такім разьлікам, каб жывот заставаўся голым. Зьнізу штаніны абшываліся маланкамі альбо манэтамі - для понту і, адначасова, для зручнасьці: такія нагавіцы не псаваліся зьнізу. Насамрэч, каб займець нагавіцы-клёш, маладому чалавеку дастаткова было купіць звычайныя нагавіцы ў звычайнай савецкай краме. Вонкавы шоў распорваўся ад нізу да калена, туды ўшывалася трохкутная ўстаўка з матэрыі альбо са скуры. Некаторыя экстрэмалы абшывалі яе па пэрыметры маленькімі лямпачкамі: праводкі ад іх вялі да кішэняў, у якіх хаваліся батарэйкі. Ілюмінацыя ўрубалася пад вечар, на падыходзе да танцаў.

## НАЦЕЛЬНАЯ ХІМІЯ

Людзі яшчэ памятаюць той час (сярэдзіна 50-х), калі зьявіўся **капрон**. Верхам шыку сталі **капронавыя панчохі**, а таксама **блюзачкі**. Апошнія былі цалкам празрыстыя і нагадвалі цюль. Жанчыны выглядалі так, быццам апранулі нацельную цэляфанавую торбу. Блюзачкі былі розных адценьняў - ружовыя, блакітныя, жоўценькія. Праз іх прасьвечвала і камбінацыя, і ніжняя бялізна. Прычым усе тры складнікі маглі быць розных колераў.

Напачатку 60-х прамысловасьць пачала выпрацоўваць новую тканіну, якая не камечылася і не патрабавала прасаваньня, - **крэмплен**. Імгненна ўсё, што было пашытае з гэтага матэрыялу (сукні, паліто, строі), сталася модным. Крэмплен адразу перайшоў у разрад дэфіцытных тавараў.

Да слова, якраз у гэтыя гады зьяўляецца і сам панятак **дэфіцыту**. А з ім - увесь сэмантычны шэраг: **дастаць, па знаёмстве, сувязі, блат** і г.д. Бліжэй да 70-х на арэну выходзяць т.зв. **фарцоўшчыкі**. Яны спэцыялізуюцца на продажы **імпартовых шмоткаў**, якіх няма ў савецкіх крамах.

## СПАДНІЦЫ, ШКАРПЭТКІ, ГАЛЬШТУКІ

У 1969 годзе, зьмяняючы спадніцы **міні**, у моду пачынаюць уваходзіць **мідзі**. Маладыя дзеўкі апранаюць адзеньне, на два пальцы ніжэйшае за калена. Моднымі робяцца басаножкі ў стылі 20-х - на невысокім квадратным абцасе. Фішка такога спалучэньня была якраз у ягонай старамоднасьці.

З 1971 распаўсюджваюцца спадніцы **максі**. У гэтым жа знакавым годзе адбыўся прарыў у мужчынскай модзе: зьявіліся **шкарпэткі канарэечнага** (дас іст фантастыш!), а потым, у 1972-м, - **чырвонага колераў**. Такая экзотыка насілася зазвычай пад цёмныя строі. Гальштукі былі пашытыя з таго ж матэрыялу, што і кашуля, і як бы "распушчаліся" на ёй. Форма гальштуку таксама пакрысе эвалюцыянавала: у 72-м вузкі і кароткі гальштук саступіў месца шырокаму і доўгаму. Потым, што праўда, даўжыня пачала паступова памяншацца.



## ПРЫЧОСКА, МАКІЯЖ

У 1961 годзе, пасьля палёту Гагарына ў космас, зьяўляецца прычоска **"Палюбі мяне, Гагарын"** - як на сёньняшні погляд, нічога звышарыгінальнага, звычайныя два хвасты. Калі ж паляцеў у космас таварыш Герман Цітоў, то назва прычоскі трансфармавалася на патрэбу часу - **"Разьлюбі мяне, Гагарын, палюбі мяне, Цітоў"**.

З хлапечых прычосак у той самы час былі модныя **бокс** (амаль лысая галава з чубам), **паўбокс** (ня так моцна выгаленая патыліца), **канадка** (на макаўцы шмат валасоў, ззаду - мала).

Калі ў савецкім пракаце зьявіўся фільм "Бабета ідзе на вайну" (1959) з Брыжыт Бардо ў галоўнай ролі, стала дзіка папулярнай стрыжка "Бабета". Выглядала яна так: зьверху валасы начосваліся, а ззаду - падкручваліся наверх. Проста чума! У народзе прычоску ахрысьцілі **"Вашывым домікам"**, а таксама **"Прыходзь да мяне ў пячору"**. Калі ж кароткія валасы па пэрыметры падкручваліся ўверх, прычоска звалася **"Я ў мамы дурачка"**.

1969-71 гады азнаменаваліся надзвычайнай папулярнасьцю **начосаў**. Начосы ў гэты час дасягаюць грандыёзных памераў, набываюць самыя незвычайныя формы. Мабыць, то былі гады самых грандыёзных экспэрымэнтаў з валасамі за ўсю другую палову мінулага стагодзьдзя.

Макіяж таксама вызначаўся арыгінальнасьцю: на верхніх павеках маляваліся даўжэзныя, таўшчэзныя чорныя стрэлкі да самых скроняў (!). Ніжняя павека і вейкі не фарбаваліся. Самы прэстыжны касмэтычны аловак меў крыху недарэчную назву "Искусство", а самай наваротнай тушшу лічылася ленінградзкая "Нева".

## САВЕЦКІЯ НОГІ

Пэўны час, у 1972-74 гг., у модзе быў жаночы абутак на плятформе - таўшчэзнай падэшве з грувасткімі абцасамі. Такі абутак дадаваў росту, у ім цёпла было хадзіць узімку, а ў дождж не прамакалі ногі.

У 1973-м у моду ўвайшлі **боты-панчохі**. Яны мелі высокую і мяккую халяву, якая аблягала нагу. Зьявіліся так званыя **"пэрлямутравыя" боты** - ненатуральна бліскучыя, лакіраваныя, да калена. Яны былі дэмісэзонныя, але моднікі насілі іх і ўлетку, бо сама наяўнасьць такіх ботаў казала пра прасунутасьць іхнага носьбіта ў патрэбным кірунку. Прывозілі такі шуз з Польшчы.

Ужо пазьней, пры канцы 70-х, зьявіўся абутак **"на маннай кашы"** ("на манцы") - колер і матэрыял падэшвы нагадваў народу менавіта гэты прадукт.

**Калготкі** зьявіліся толькі пры канцы 60-х. А раней жанчыны апраналі асобна панталёны і асобна панчохі, якія трымаліся на гумках.



## НОСЬБІТЫ ІНФАРМАЦЫІ

Музыка да пачатку 60-х запісвалася выключна на плыты. Праўда, ня толькі на вініл. Тыя, хто меў **рэнтгенаўскія здымкі** (пажадана груднай клеткі - яны большыя), маглі на студыі запісаць музыку і на іх. Падпольныя студыі прапаноўвалі альбомы заходніх выканаўцаў, купіць ці перапісаць якія легальна было немагчыма. **Бабінныя магнітафоны** зьявіліся толькі ў 60-х, а **касэтнікі** - напачатку 70-х.

У 60-х пісалі пер'ямі. Адпаведна, школьнікі і студэнты насілі з сабой чарніліцы - **"чарнілкі"**. Калі ў 67-68 гг. зьявіліся шарыкавыя асадкі, іх адразу ахрысьцілі **"шарыкамі"**.

## МИНЗДРАВ ПРЕДУПРЕЖДАЕТ

У 1966-67 гг. "минздрав" нарэшце паклапаціўся пра народнае здароўе - зьявіліся **цыгарэты зь фільтрам**. Яны насілі экзатычныя для сёньняшняга вуха назовы: **"Трезор"**, **"Стюардесса"**, **"Опал"**. Самымі прэстыжнымі і дарагімі (40 капеек) былі цыгарэты **"БТ"**. Абрэвіятура расшыфроўвалася празаічна: баўгарскі тытунь.

Ужо ў 60-х пралетары пілі **"чарніла"**. Па ўспамінах відавочцаў, напой гэты нагадваў "сапраўднае пойла бурачнага колеру". Больш забясьпечаныя клясы папівалі вінцо. Найлепшымі лічыліся грузінскія марачныя **"Горочанах"** і **"Карданахи"**.

## КУЛЬТУРНЫ АДПАЧЫНАК

Улюбёнай формай моладзевага адпачынку ў 60-70-х былі **вечары і танцы**. Прычым любы павольны танец называўся **танга**. Ён танчыўся амаль нерухома, упрыцірку. Калі нават гучаў вальс, танчылі ўсё адно танга.

Надзвычай папулярным напачатку 60-х робіцца **твіст** (гэта калі абедзьвюма нагамі тушаць цыгарэтныя недапалкі). А ў 1967-69 у моду ўваходзіць **шэйк**: пад любую больш-менш рытмічную музыку трэба было бессыстэмна трэсьціся ўсім целам.

Лічылася добрым тонам узімку запрасіць упадабаную дзяўчыну **на каток**, а на працягу ўсяго году - **у кіно**: большасьць замежных фільмаў можна было ўбачыць толькі ў кінатэатры. Дарэчы, на апошніх шэрагах ня толькі кіно глядзелі.

Цікава, што нейкі адсотак немаўлятаў у навасьпечаных ячэйках грамадзтва зьяўляўся дакладна праз дзевяць месяцаў ад моманту наведваньня такога "кіна". Але пра сэкс у Савецкай Беларусі - іншым разам.



# ПРАДУКТОВАЯ НАСТАЛЬГІЯ

## COPYART-СЭСІЯ

**Хто сказаў, што саўка даўно няма? Сёньня, як і ў часы БССР, ты па-ранейшаму можаш купіць гэтыя прадукты ў любой харчовай краме. Зараз паглядзім, што магчыма зрабіць з дапамогай звычайнага сканэра і стандартна-настальгічнага набору саўковых харчоў.**

"МОЛОКО СГУЩЕНОЕ". Прычына карыесу ў мільёнаў савецкіх дзетак




Савецкі джэнтэльмэнскі набор: сырок плаўлены "ВОЛНА" і пляшка гарэлкі. Гарэлку да рэдакцыі не данесьлі




Шакаляд"АЛЁНКА". Эратычна-фальклёрная фантазія Мінхарчпраму СССР

Папіросы "БЕЛОМОРКАНАЛ" і запалкі "БОРИСОВДРЕВ". Дзіцячы садок, альтанка, першы досьвед паленьня...







Цукеркі "КОРОВКА". Травэстыйна-зьнявены варыянт назвы - "караўкі"






"СЫРОК ГЛАЗИРОВАННЫЙ". Кожны трэці дзіцёнак так і не зразумеў, дзе ў сырка "глазки"

"ШПРОТЫ В МАСЛЕ". Прыбалтыка нам дапаможа





"МОЛОКО КОНЦЕНТРИРОВАННОЕ". Дадаваць па смаку ў кіпень (!), каву, какаву ці гарбату



"ГОВЯДИНА" ў квадратнай бляшанцы. Час мінае - гавядзіна застаецца




"САХАР РАФИНАД". 1-2 кавалкі на шклянку гарбаты



"СОВЕТСКОЕ ШАМПАНСКОЕ". Прыблізна такая ж гадасьць, як і французская гарэлка

# Арбузік і Бябешка адны дома

**Віктар ЖЫБУЛЬ**

**Што чытаў у дзяцінстве тыповы жыхар Беларусі, народжаны напрыканцы 70-х - напачатку 80-х, калі на вуліцах ва ўсю луналі чырвоныя сьцягі зь сярпамі ды малаткамі? Якую інфармацыйную ўстаноўку атрымаў, як толькі вылез з паўзункоў, сучасны твэнтынэйджэр - чалавек, які пасьпеў пабываць і акцябронкам, і піянэрам, а вось камсамольцам - ужо не? Паспрабуем шляхам амаль што хірургічнага ўмяшаньня ў мазгі адказаць на гэтыя пытаньні. У якасьці лябараторнага пацука згодны выступіць я сам.**

У дзіцячым садку выхавацелька часта чытала нам пра вайну, пра юных герояў і пра дзядулю Ільіча, паводле запаветаў якога жылі яны і быццам бы павінны былі жыць мы. Чытала, вядома ж, па-расейску, каб усе ўсё разумелі: родную мову зь пялёнак мала хто з нас ведаў. Першым крокам у далучэньні нас да беларушчыны было вывучваньне народнай песьні "Купалінка". Але, наслухаўшыся аповедаў пра ваеннае ліхалецьце, мы слова "ружы" ўспрымалі як "ружья" і, адпаведна, думалі, што гэтая песьня - пра партызанку, якая поўзае па полі бітвы й зьбірае зброю ў палеглых воінаў.

Мы й самі любілі гуляцца ў вайну, бегаць адзін за адным з плястмасавымі пісталецікамі й кідацца гаўном на палачцы. Аднойчы выхавацелька спытала ў нас: "Ну, пра што вам пачытаць?" Многія, асабліва хлопчыкі, закрычалі хорам: "Пра вайну!". А я - ці сапраўды мяне дастала ваенная тэматыка, ці ўжо тады быў ахоплены пацыфісцкімі ідэямі, ці проста вырашыў падацца арыгінальным - сказаў: "Ня трэба пра вайну! Чытайце пра мір!". Вядома, ніхто мяне не паслухаўся...

У дзяцінстве я любіў кнігі, але ня надта любіў іх чытаць (хаця рабіць гэта навучыўся даволі рана). Памятаю, у тым жа дзіцячым садку мяне часта прасілі што-небудзь пачытаць уголас. Аднойчы, чытаючы нешта як заўсёды гераічнае, я немаведама чаму расьсьмяяўся. Выхавацелька забрала ў мяне кніжку і болей гэтую справу мне не давярала.

Калі я, саплівы дашкольнік, браў кніжку, у канцы якой было пазначана "Для дзяцей малодшага школьнага ўзросту", дык зазвычай думаў: "Гэта ўжо для вялікіх дзяцей, а я яшчэ маленькі. Раптам не зразумею чаго...". Яшчэ больш разгублена пачуваўся я, калі бачыў надпіс "Для дзяцей сярэдняга школьнага ўзросту". І ўжо зусім містычныя пачуцьці выклікалі кніжкі, адрасаваныя старэйшым школьнікам. Іх я гартаў асьцярожна, прытаіўшы подых - амаль як падлетак, які ўпершыню сеў глядзець парнуху. Але я са шкадаваньнем думаў: "Вось падрасту - тады прачытаю", і адкладаў кнігу ўбок. Сусьвет кніжак для дарослых існаваў для мяне ўвогуле неяк асобна.

У дашкольныя гады бацькі панакуплялі мне шмат кніжак, у тым ліку і беларускіх. Сапраўдным адкрыцьцём для мяне стаў Павал Місько з аповесьцю "Прыгоды Бульбобаў". Ня думаў я, што ад імя простага савецкага сабачкі можна напісаць такі захапляльны твор. Спачатку мне яго чытала мама, а потым я і сам заахвоціўся. Калі пазьней мне патрапілася кніга П.Місько "Навасёлы", я чытаў яе зь вялікім захапленьнем, і часам мой рогат не даваў спакойна спаць суседзкаму сабачку.

Пасьмяяцца мы любілі. У школе мы ў абавязковым парадку мусілі выпісваць спачатку "Зорьку", а потым "Пионерскую правду" і распавядаць аб прачытаным на ўроку пад назвай "палітінфармацыя". "Ну што вы чыталі?" - пыталася настаўніца. "Сьмяшынкі," - гарэзьліва адказваў хлопчык з задняй парты. "Сьмяшынкі," - звонка прамаўляла дзяўчынка з банцікамі. "Сьмяшынкі" - паўтараў яшчэ нехта, але ўжо неяк вінавата, засаромлена. Настаўніца выглядала ня менш разгубленай: "Ну, я разумею, што вы ўсе так любіце гумар, але ж трэба чытаць нешта яшчэ....". Здаралася, яна не вытрымлівала і крычала: "Ну што гэта такое? Навокал столькі ўсяго адбываецца, а вам усё хіханькі ды хаханькі!".

Чым далей, тым урокі палітінфармацыі рабіліся ўсё больш страшнымі. На іх распавядалі то пра Чарнобыль, то пра Нагорны Карабах, то пра мафію, то проста пра тое, як фігова жыць на белым сьвеце. Натуральна, гэта адмоўна адбівалася на нашай неакрэплай дзіцячай псыхіцы. Мы прыходзілі дахаты запалоханыя, нэрвовыя і даволі сумныя. Натуральна, хацелася неяк супакоіцца, адцягнуцца і ня думаць пра ўсе гэтыя жахі. І мы гарнуліся да тых самых сьмяшынак (у мяне нават была кніжка з такой назвай) - павінен жа быў існаваць нейкі балянс, які б усталяваў душэўную раўнавагу ў дзяцей, якіх з маленства рыхтавалі да "сур'ёзнага" жыцьця, што ў дзіцячай сьвядомасьці выглядала як ланцужок "спачатку акцябронак, потым піянэр, потым камсамолец, а потым камуніст". Потым абавязкова павінна была пачацца вайна (не істотна, зь кім і дзеля чаго, але павінна пачацца), усе пойдуць ваяваць і вернуцца героямі-вэтэранамі, абвешанымі з ног да галавы ордэнамі й мэдалямі.

Карацей, у сьвядомасьці кожнага з нас стаяў вобраз гераічнага хлопчыка - напалову Марата Казея, напалову Міколкі-паравоза. Першы быў рэальнай асобай, другі - плёнам фантазіі М.Лынькова. Нават калі б той нічога не стварыў, акрамя аповеду пра гераічнага хлопчыка, ён усё роўна патрапіў бы ў гісторыю. Няма, напэўна, такога беларуса, які б не пазнаёміўся зь Міколкам праз школьную праграму. А колькі гадоў таму кансьпіратары ад літаратуры Францішак Хлус і Марцін Юр выдалі кнігу "Здані і пачвары Беларусі", куды патрапіў і Міколка-паравоз. Ня памятаю толькі, у якасьці каго - здані альбо пачвары...

Вось у каго яшчэ быў шанец патрапіць у тую кнігу - дык гэта ў Янкі Маўра, таму што ягоны псэўданім мы любілі рыфмаваць з "дыназаўрам". Спачатку мне здавалася, што Янка Маўр і не беларус зусім. Гэта ён толькі піша па-беларуску, а насамрэч ён - самы сапраўдны мурын, інакш адкуль ён так добра ведае жыцьцё іншаземцаў-абарыгенаў. Я вельмі зьдзівіўся, калі пабачыў на фатаздымку дзядулю абсалютна эўрапейскай зьнешнасьці. Яшчэ больш уражаны быў, калі даведаўся, што яго па-сапраўднаму клічуць Іванам Фёдаравым - як расейскага першадрукара.

Не магу ўявіць беларускую дзіцячую літаратуру бяз кнігі Зьмітра Бяспалава "Лясныя хітруны" - пра котку Мусю, сінічку Пінь-Піньку, вожыка Туп-Тупчыка (!) ды іншых прадстаўнікоў беларускае флёры й фаўны. Ня ведаю, ці чытаюць дзеці гэтую кніжку зараз, але ў 1986 годзе, калі яна выйшла, яна таксама была ў ліку дзіцячых бэстсэлераў. Як толькі настаўніца разрэклямавала нам гэты шэдэўр, уся наша кляса кінулася ў кнігарні й раскупіла там усю партыю "Лясных хітруноў", што была ў продажы. Думаецца, калі гэтая кніга карысталася такой жа папулярнасьцю і ў іншых школах, то Зьмітру Бяспаламу не даводзілася скардзіцца на недахоп чытачоў.

Не праміну сказаць і пра беларускую дзіцячую паэзію, якая ў савецкія часы, таксама як і проза, была на вышыні. Асабіста мне падабаўся зборнік "Вясёлы перапынак", дзе былі сабраныя сапраўды вясёлыя творы Ніла Гілевіча, Васіля Віткі, Артура Вольскага, Станіслава Шушкевіча, Мар'яна Дуксы, Авяр'яна Дзеружынскага і шмат каго яшчэ. Я прачытаў гэтую кніжку некалькі разоў, а некаторыя вершы нават вывучыў на памяць.

А вось разгортваю зборнік Сяргея Грахоўскага "Сонечная сьцежка":

*Многа клопату мы мелі:*
*Млын паставілі на мелі,*
*Але ён зусім ня меле,*
*Бо, відаць, зрабіць ня ўмелі.*

Прыкладна такімі ж прыёмамі карыстаюцца сёньня некаторыя паэты, якія клічуць сябе авангардыстамі або канцэптуалістамі. А чаго варта славутае "Індыкала-Кудыкала" Рыгора Барадуліна!.. Авангард, напэўна, заўсёды існаваў у беларускай паэзіі, толькі ў такой своеасабліва прыхаванай форме - у выглядзе дзіцячай паэзіі. Неяк, разважаючы на гэтую тэму з культурлягам Юрасём Барысевічам, мы прыйшлі да высновы, што калі б на дзіцячых паэтычных кніжках не пазначалася, што яны дзіцячыя, дык успрымаліся б менавіта як авангард.

А нядаўна мой сябар Віктар Іванoў, вакаліст гурта "Засраказра", сказаў, што няблага было б стварыць нейкі музычны твор паводле рамана Эдуарда Скобелева "Прыгоды Арбузіка і Бябешкі" (ведаючы Віктара, уяўляю, што гэта быў бы нейкі наварочаны альтэрнатыўны арт-панк). "У маім дзяцінстве гэта была культавая кніга", - кажа Іваноў. - "Я яе да дзірак зачытваў. Палову я разумеў ня так, як хацеў бы Скобелеў - за гэта яна мне і падабалася. Напрыклад, мне заўсёды было шкада зеленахвостых". Адну песеньку пра герояў Э.Скобелева ён ужо напісаў. Там былі такія словы:

*Арбузік і Бябешка адны дома.*
*Арбузік ззаду падыходзіць - і...*

Так што ўсё мае свой працяг.

**Мабыць, і нашыя дзеці таксама будуць з задавальненьнем чытаць і Маўра, і Місько, і Скобелева, і нават Лынькова - хоць, магчыма, і тым дзіўным прыметнікам - "савецкі"...**

















# Mach nach, mach mit, mach besser!*

## DDR у фаворы

Катарына Яновіч



**DDR заўжды была краінай кантрастаў. Пасьля Другой Сусьветнай вайны кіраўнікам сацыялістычнай Нямеччыны стала зразумела, што народ можа лёгка заблытацца сярод наяўных савецка-сталінскіх і нямецка-гітлераўскіх легендаў, па сутнасьці аднолькавых. Таму былі зробленыя радыкальныя крокі: працоўным масам прапанавалі непаўторную савецка-нямецкую суспэнзію - Доўчэ Дэмакрацішэ Рэпублік, краіну з малатком і цыркулем на гербе і ўльтрамоднымі колерамі на сьцягу.**

### Klonen-heleden // Героі-клоны

Пасьля Другой Сусьветнай вайны наноў заснаванай дзяржаве патрэбныя былі свае волаты і прыгажуні, што скіроўвалі б засяроджаныя твары і пранізьліва шчырыя ды патрабавальныя погляды ў далячынь сацыялістычнай будучыні. Паколькі DDR-аўскія ідэёляг-крыэйтэры не маглі стварыць арыгінальных мэтодык раскруткі брэндаў, даводзілася карыстацца лепшымі тэхналёгіямі СССР-аўскага агітпрапу.



Ударным нумарам безумоўна быў тав.Стаханаў, ролю якога ў савецкай Нямеччыне выконваў тав. **Adolf Henecke**. Перадавік вытворчасьці (шахтар) стаў не для аднаго пакаленьня нямецкай моладзі прыкладам **Aktivisten der 1 stunde** - "актывіста першай гадзіны". Мэдалём імя тав. Хенэке ўзнагароджваліся за працоўныя подзьвігі лепшыя з найлепшых.

Не адно пакаленьне юнацкіх целаў DDR трымцела ў жаданьні атрымаць футбольную кашульку зь літарамі, што складаліся ў чароўнае імя **Jurgen Spanwasser**.




Футбаліст, уласна кажучы, слабой гэдэраўскай зборнай вызначыўся тым, што аднойчы паставіў на месца ганарлівых заходніх бюргераў: забіў адзіны гол у адзіным у гісторыі матчы паміж ГДР і ФРГ. Трыюмфавала ўся краіна! Бо гол, натуральна, сьведчыў пра перавагу сацыялістычнага ладу жыцьця над капіталістычным.

Па шчырасьці, прыхаваны, але ня меншы гонар выклікаў у палымяных сэрцах нашчадкаў Эрнста Тэльмана пераможны гол таго ж Шпарвасэра ў матчы з самым старэйшым братам - СССР. Злыя языкі сьцьвярджаюць, што пасьля гэтага кар'ера футбаліста пайшла ўгару.



Прапаганда здаровага ладу жыцьця, дарэчы, была неад'емнай часткай дзяржаўнай ідэалёгіі DDR. З гэтай прычыны даходзіла і да вольнасьцяў, якіх неназіралася ў асэксуальным Саюзе і якія шакавалі пурытанскую Заходнюю Нямеччыну. Найвядомейшая зь іх называлася **FKK** ("Вольная Фізычная Культура"). Пад гэтай абрэвіятурай ВФК хавалася банальная прапаганда культу здаровага цела ў натуральных умовах. Сотні людзей з радасьцю ўдзельнічалі ў ВФК, то бок у звычайным... нудызме. У неапранутым выглядзе "спартоўцы" DDR займаліся любымі



* "Рабі з намі, рабі як мы, рабі лепей за нас!"





відамі спорту, самым папулярным зь якіх было ляжаньне на шматлікіх нудысцкіх пляжах.

Клон Юрыя Гагарына - астранаўт **Siegmund Jahn**, што ў 80-ых пабываў у космасе на станцыі "Мір" разам з нашым Кавалёнкам, меў літаральна разыграны па нотах культ. Ва ўсходненямецкіх школах і летніках ладзіліся адмысловыя конкурсы дзіцячай самадзейнасьці "Песьня для Зыгмунда".

Часам у элітным летніку **Pionier Republik** ("Піянэрская рэспубліка") (аналяг "Зубраняці" ці "Артека") перад удзячнай непаўналетняй публікай мог зьявіцца і сам герой. Тут ён выконваў разам з самымі піянэрыстымі піянэрамі краіны караоке **Massesingen mit Siegi** ("Масавыя сьпевы з Зыгі").

### Junge kampfer fur Sozialismus // Маладыя змагары за сацыялізм

Праўда, па эмацыйнасьці гэты ўспамін не саступае ўспамінам пра тое, што на сьняданак у Pionier Republik можна было атрымаць такі дэлікатэс заходняй культуры, як мюсьлі ці корнфлекс.

Тым ня менш ня будзем недаацэньваць ідэйнасьці выхаваньня маладога гэдэзраўца.

У першай клясе малады грамадзянін DDR уступаў у шэрагі **Jung Pioniere** - "малодшых піянэраў", за што атрымліваў блакітны гальштук, у пятай клясе - у шэрагі тэльманаўцаў з чырвоным гальштукам, ну а ў восьмай рабіўся сябрам **FDJ** - "Свабоднай германскай моладзі". Кожны піянэр любога ўзросту пакідаў за гальштукам самае надзейнае месца - кішэню.

Усё гэта адбывалася на фоне патрыятычнага выхаваньня, дзе найважнейшымі былі ветлівасьць, нямецкая акуратнасьць і, ясна, internationale Solidaritat, то бок інтэрнацыянальнае братэрства, у выніку якога зь мясцовых канцтаварных крамаў да зьбяднелых дзяцей Афрыкі траплялі танныя алоўкі, сшыткі і гумкі.

У некаторых піянэраў DDR да гэтага часу красуюць на сьценках граматы **Fur gutest Lernen in der sozialistischen Schule** ("За добрую вучобу ў сацыялістычнай школе") і падзякі за ўдзел у перавыхаваньні двоечнікаў.



### Internationale Freundschaft // Дружба народаў

Кожны год ва ўсіх школах сацыялістычнай Нямеччыны праводзілася сьвята песьні і маршу - **Das Fest des Liedes und des Marsches** / (aka "Зарніца"), прызам за актыўны ўдзел у якім была паездка ў піянэрскі летнік у Польшчу. Ці то сацыялістычная дактрына давала расколіну, ці то дух камэрцыі ня вытруціш нават з маладых нямецкіх піянэраў, але слаўныя палітнекарэктныя сыны і дачкі DDR старанна прадавалі польскім сябрам запакаваныя мамкамі і бабцямі нямецкія вафелькі, за хруст якіх дзеці Польскай Народнай Рэспублікі гатовыя былі выкласьці ўсе свае грошы на марозіва!

Прадукты харчаваньня - гэта наагул асобная тэма. Калі прадукты **Made in DDR** патыхалі для ўсіх астатніх суседзяў па сацыялістычным блёку капіталізмам, то для саміх усходніх немцаў люксам уяўляліся тавары з ФРГ, у першую чаргу - шакаляд, кава і піва. Набор, як бачым, джэнтэльмэнскі! Прадукты гэтыя ў асноўным дасылаліся сваякамі з Заходняга Бэрліну ці набываліся ў **intershop** (aka "Бярозка") за заходненямецкія маркі. (Цікава, што патрэбная валюта якімсьці чынам была ва ўсіх!)

Праўда, пасьля аб'яднаньня ўсходнія немцы перажылі культурны шок, і шмат у каго папсаваліся адносіны са сваякамі з Заходняй Нямеччыны: большасьць шакаляду, што дасылалі сваячкі, была з **ALDI** - сеткі самых танных і брудных супэрмаркетаў, дзе зараз затаварваецца ці не палова Ўсходняга Бэрліну...



**Мода на вопратку з надпісамі "СССР" і "АЭРОФЛОТ" дагэтуль актуальная ў Нямеччыне. Нешматлікія discos і bars у стылі "точка общепита" хаваюць у сваіх нетрах тых осіс і весіс, што так любяць панастальгаваць. Але толькі першыя здольныя пад стапарык "Stolichnaya" ацаніць дзіцячы анекдот пра Чабурашку...**

Падзяка за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялу Раману Міхаэльсу

# 1961: ПРАФАРЫЕНТАЦЫЯ

...1961 год. У красавіку на караблі-спадарожніку "Ўсход" у космас паляцеў тав.Гагарын. У кастрычніку мае адбыцца XXII зьезд КПСС. Другі год Амэрыкай кіруе Джон Кенэдзі. У Беларусі рэжысэр Корш-Саблін здымае гістарычны фільм "Першыя выпрабаваньні". Апублікаваная аповесьць У.Караткевіча "Сівая легенда". Савецкія інжынэры працуюць над праектам 27-тоннага БелАЗа, выпуск якога распачнецца ў Жодзіне праз чатыры гады.

...Гэтым разам па заданьні "CD" я даставала знакамітасьцяў наступным пытаньнем: **"Кім бы Вы сталі, калі б абіралі прафэсію ў 1961 годзе?"**



**Алесь СУША**, уладальнік буціку "Kamila" і рок-кароны 2001 году за праект "Я нарадзіўся тут", стаў бы фізыкам. Магчыма, выкладаў бы гэты надзвычай цікавы прадмет ва ўнівэрсытэце ці акадэміі. Так ці інакш, сп.Суша абраў бы прафэсію, не зьвязаную з палітыкай.



**Анатоль ЯРМОЛЕНКА** ("Сябры") быў дужа арыгінальны і абраў прафэсію касманаўта. "Калі Гагарын паляцеў у космас, нас нават з урокаў адпусьцілі..."



**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**, паэт, усё адно быў бы "каля беларускай кнігі". Магчыма, працаваў бы ў бібліятэцы - выдаваў бы кніжкі дзецям. Ці ў выдавецтве. Ці проста выгружаў бы кнігі на паліграфкамбінаце. Але толькі беларускамоўныя.



**Аляксандар КУЛЬЛІНКОВІЧ**, фронтмэн "Нэйра дзюбэлю", паспрабаваў бы стаць гукаінжынэрам ці... відэаінжынэрам ("ну, ці як іх там яшчэ на тэлевізіі называюць"): яму падабаецца "ўсё мантаваць". Калі б на тэлевізію не пусьцілі, пайшоў бы ў моладзевую газэту журналістам.



**Сяргей КАРТЭС**, дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатру опэры: "Калі б я ня стаў музыкам, то ўсё адно стаў бы музыкам". Што праўда, сп.Картэс яшчэ цікавіўся гісторыяй...



**Кірыл СУХОЦКІ**, дырэктар службы інфармацыі радыё "Рокс" і "Русского радио", хацеў бы стаць касманаўтам ці "ядзерным фізыкам". А ўвогуле па жыцьці марыць быць знакамітым вандроўнікам і пры гэтым мець шмат грошай. Антаганізм?



**Алесь ПУШКІН** (мастак), усё адно абраў бы прафэсію мастака, але быў бы прынцыповым нонканфармістам і браў бы ўдзел толькі ў забароненых выставах. Варыянт другі: вывучыўся б на хірурга ("мама хацела") ці нават на нэйрахірурга: "Прышываў бы людзям адарваныя пальцы". Аднак ні ў якім выпадку не хацеў бы быць гінэколягам: "Патрэбная вялікая сьмеласьць, каб умешвацца ў гэтую сфэру".



**Генадзь ДАВЫДЗЬКА**, дырэктар Купалаўскага тэатру, у 1961 годзе быў бы археолягам. На ягоную думку, у даўніне заключаная ісьціна. Мог бы стаць сп.Давыдзька і капітанам далёкага плаваньня: "Мне вельмі падабаецца падарожная рамантыка".

**Тацяна БАНДАРЧУК**, дырэктарка Дзяржаўнага цырку, абрала б кар'еру балярыны. Такая ў яе была мара. А ўвогуле, у 1961 годзе яна б хацела стаць добраю жонкай і маці пяцёх дзяцей. Бо прафэсіі, пра якія яна марыла ў дзяцінстве, былі "занадта цяжкімі для жанчыны".

*апытвала ALES'ka*



# БЕЛАРУСКІ САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ АГІТПРАП

***плякаты з калекцыі Саюзу дызайнэраў Беларусі***
















# Андрэй КУРЭЙЧЫК: "Я выварочваю сябе, а ня Біблію

## SELFMADE клясык драматургіі

*"Зь дзяцінства ненавіджу грамадзкія ўстановы... Савецкія паліклінікі, дзіцячыя садкі, школы, унівэрсытэты, канторы... Нават пафарбаваныя падчас "касмэтычнага" рамонту ў экстрэмальныя колеры, памяшканьні ня здольныя пазбавіцца паху чалавечых целаў, пылу, атупелага суму і нежывога часу... Установы навяваюць сусьветную тугу, паралізуюць волю - у выніку да ўсяго чамусьці чырванеюць вочы..."*

*Зрэшты, наўрад ці на візыт у раённую бібліятэку варта рэфлексаваць так трагічна. Я ж усяго толькі спрабаваў дастаць у залежах шматвяковых графаманскіх намаганьняў, што выстраіліся на паліцах "Беларускія пісьменьнікі", "Замежная клясыка", "Сучасная мастацкая літаратура" і інш. няроўнымі шэрагамі, першы нумар часопіса "Полымя" за 2002 год.*

*Маскультавы абываталь падаў голас: пасьля ўсчыненай гістэрыі ў СМІ нельга не адкінуць убок суб'ектыўнасьць і не пачытаць 50 старонак п'есы 20-(зь нечым)-гадовага Андрэя Курэйчыка, якога ставяць на лепшых сцэнах Менску і Масквы. Ён, увасабленьне патаемных мараў закатаванага беларускай савецкай літаратурай школьніка, ці то геній, ці то махінатар ад літаратуры, са старонак паважаных газэтаў гаворыць "клясыкам" усё, што думае пра іхную творчасьць, сьціпла падпісаўшыся напрыканцы:* ***Андрэй Курэйчык, a_kurei@mail.ru.***



**- Наколькі ўплывае Вашая адукацыя на стварэньне тэксту? Як адвакаты і судзьдзі, Вы пралічваеце кожную дробязь, каб не памыліцца ў разьвіцьці падзеяў, папярэдне плянуеце, якім чынам мусіць разьвівацца драматургія дзействаў?**

- На жаль, юрыдычная адукацыя - ніяк. Я займаўся літаратурай і да паступленьня на юрыдычны, а калі паступіў, зусім дакладна падзяляў сваю працу на юрыдычную і літаратурную. Больш за тое: я ня ёсьць юрыстам у чыстым выглядзе. Я - студэнт пятага курсу юрыдычнага факультэту аддзяленьня паліталёгіі. Першыя курсы ў нас прысьвечаныя вывучэньню юрыдычных дысцыплінаў, астатнія - палітыцы.

П'есы я пішу "по наитию". Калі пачынаю, ведаю сюжэт у агульных рысах, пэрсанажаў, а таксама ведаю тую думку, якой хачу падзяліцца з чытачом. Самі дыялёгі ўзьнікаюць ужо на паперы.

**– Аляксей Дудараў сьледам за дзедам-клясыкам гаворыць, што драматург мусіць быць і псыхолягам, і філёзафам, і пісьменьнікам, і паэтам. Але наколькі важны асабісты досьвед пісьменьніка пры стварэньні твору?**

- Досьвед несумненна важны, але часам ён вымяраецца ня ў колькасьці перажытага, пабачанага і пачутага. Арцюр Рэмбо напісаў свае геніяльныя вершы ў сямнаццаць-васямнаццаць год - які ў яго мог быць досьвед? Які досьвед мог быць у маладых Пушкіна, Гогаля, Моцарта?

Досьвед мастака заключаецца ў яго творчых перажываньнях: ён нібыта зь нічога, з пустаты, са свайго таленту стварае досьвед. Часам, калі пісьменьнік сядзіць за пісьмовым сталом, ён можа ўзнавіць жыцьцёвы досьвед цэлага пакаленьня, цэлага народу (да прыкладу Толкіен, які зь бездані свайго таленту стварыў цэлы сьвет). Для гэтага зусім не абавязкова мець нейкі асаблівы, "складаны" лёс.

**– Адна з Вашых першых п'ес – "Загублены рай" – напісаная па матывах біблейскага сюжэту. Ці не занадта прэтэнцыёзна для "маладога літаратара"?**

- Пісаць трэба пра тое, што чапляе цябе асабіста. Толькі палкае, шчырае перажываньне можа быць у аснове любога твору мастацтва. Я пісаў "Загублены рай" і выварочваў сябе, а ня Біблію. Я спрабаваў адказаць на тыя пытаньні, якія выклікаў у мяне біблейскі тэкст, але адказы на якія я сам не знайшоў. І ў мяне няма на гэты конт ніякіх прэтэнзіяў, апрача прэтэнзіяў да якасьці ўласнага тэксту.

**– Фактычна, Ваш удзел у палеміцы аб стане сучаснай беларускай культуры – выклік не асобным пэрсаналіям, а беларускай культурніцкай сытуацыі. Ці ня думаеце Вы, што незадаволеныя апанэнты з таго ж Саюзу пісьменьнікаў, перафразуючы Авэля з "Загубленага раю", учыняць Вам джыхад са словамі "Гасподзь адкрыў нам, а не табе, вочы, гадзіна!"**

- Я не выключаю і такое разьвіцьцё падзеяў. Я разумею, што сваёй пазыцыяй раздражніў многіх, разумею, што абудзіў вялікага шэрага зьвера. Але калі нападкі на мяне будуць - гэта лішні раз дакажа маю правасьць і ідавочнасьць культурніцкай крызы ў нашай краіне.

Зь іншага боку, я не шкадую ні пра што. Культура - сфэра публічная. Пытаньні мастацтва ня мусяць вырашацца

ціха, у цёмных калідорах і гатычных лёбі - гэта прэрагатыва палітыкаў і крыміналаў. А непублічнае мастацтва ня мае сэнсу. Такое ўражаньне, што у нашай краіне ўсё робіцца па прынцыпе "ад ліха ціха": ня трэба хваляваньняў, ня трэба сутыкненьняў, усё спакойна, чынна... Як на могільніку. Закопваюць новых мерцьвякоў, прыходзяць працэсіі, грае музыка, гучаць прамовы. А сэнс?
Мусіць адбывацца сутыкненьне розных пазыцыяў. Ну і што, калі Сальвадор Далі і Пікаса цярпець не маглі адзін аднаго - затое якая краіна не зайздросьціла гішпанскаму жывапісу пэрыяду іхнага процістаяньня?!
Спадзяюся, што дыскусія ня будзе нагадваць пацучынае шабуршаньне па кутках.

**– Наколькі патавая сытуацыя ў сучаснай беларускай культуры?**
- Пра сытуацыю ў сучаснай беларускай культуры проста няма чаго сказаць. Ёсьць людзі - пісьменьнікі, паэты, мастакі, кампазытары, рэжысэры, якія ведаюць адзін пра аднога, яны сустракаюцца, размаўляюць - але ў чым тут сэнс? Я, па шчырасьці, не разумею.
Для мяне культура - гэта перш за ўсё творы мастацтва. Дзеля гэтага ўсё! Леанарда да Вінчы памёр, але засталася "Джаконда". Засталася на ўсе часы. Якія творы мастацтва засталіся ў нас? Мне кажуць: ну вось Колас, Купала, Цётка, Макаёнак... А я пытаюся: канкрэтна якія творы? Якія творы перачытвае пасьля працы нармальны жыхар гэтай краіны? Ніколі не паверу, што гэта вершы Цёткі ці раманы Чорнага. Не-па-ве-ру! Дастаеўскі, Акунін, Кундэра, Маркес - але ня Чорны! Адзінае, што яшчэ падтрымлівае наш мастацкі густ у больш-менш прыстойным стане - гэта сусьветнае мастацтва, якое зараз зусім заканамерна дамінуе ў хатніх бібліятэках, кінатэатрах, канцэртных залях. Ня трэба баяцца глядзець праўдзе ў вочы.
Калі мне пачынаюць казаць пра ролю таго ці іншага пісьменьніка, кампазытара, мастака ў беларускай культуры - я адключаюся. Мне ня трэба расказваць пра ролю, хай ягоны твор распавядзе мне пра пісьменьніка. Гэтаксама: мне па тэлевізіі пачынаюць тлумачыць пра сытуацыю ў эканоміцы. Ня трэба: я прыйду ў краму і сам усё ўбачу.
Ад нішчымніцы духу мы радуемся нават зьяўленьню сярэдняга роўню кніжкі ці спэктаклю. Вось вам паказчык! Калі я чую ў адрас твору мастацтва слова "дабротна", "міла", "крэпка", "добра набудавана" - мяне ператоргвае. І ўвесь жах у тым, што такі ровень людзей задавальняе! Яны не разумеюць, як жахліва яны апусьціліся. Каб мне сказалі такі "камплімэнт", я б задушыўся.
Усё, што не таленавіта - бяздарна! Ня можа быць "крэпка" напісанай Сікстынскай капэлы! Усім, хто яе бачыць, патрэбная ня "крэпкая", але Боская прыгажосьць вялікага мастацтва - ня менш. У нас усе такія далікатныя, так баяцца параніць пачуцьці нашых творцаў, такія дабрадушныя, што сам факт пастаноўкі ці напісаньня кнігі ўжо нагода для ўсеагульнага трыюмфу. Раздваеньне крытэраў: адны мы ўжываем у адносінах да сусьветнай культуры, а іншыя, такія крыху дзіцячыя, патворлівыя - да сваёй, і ў гэтым я бачу галоўны біч беларускага мастацтва! А калі мы зьнізілі крытэры да мастацтва, то адразу, непазьбежна зьніжаецца ровень самога мастацтва. І гэты працэс зацягвае. Горай пішуцца кнігі - хай, мы ўсё адно будзем іх хваліць! Яшчэ горшыя - ну і добра, затое нашыя! Адсюль павальная шэрасьць, замоўчваньне, глупства... Мастацтва - гэта канкурэнцыя. Ня трэба баяцца сказаць што-кольвек кепскага, адкінуць і шукаць лепшае. Шукаць таленты, а не прыціскаць да грудзей тое, што ёсьць... шукаць зноў і зноў, і толькі тады ёсьць надзея на сьвятло.
Да той пары, пакуль мы не пачнем перад кожным, падкрэсьлю, перад кожным творам мастацтва ставіць за мэту быць лепшым, зрабіць пераварот у культуры і жыцьці, пакуль мы ня будзем ставіцца да нашага мастацтва з тройчы жорсткімі крытэрамі, чымсьці да сусьветнага, патрабуючы ад пісьменьнікаў пісаць лепей за ўсіх, музыкаў - граць, рэжысэраў - ставіць лепей за ўсіх, да той пары крыза ня будзе вырашаная. Для сябе я стаўлю толькі такія ўмовы. Разумею, што яшчэ ня ўсё атрымліваецца, а таму яшчэ з большым асьцерваненьнем бяруся за наступную п'есу.

**– Падаецца, Вы патрапляеце ў тую ж пастку: друкуеце свае п'есы ў клясычна "тоўстым" "Полымі", большасьць аўтараў якога ня здольная да дэкляраванай Вамі ж культурніцкай экспансіі.**
- Не, не трапляю. Спадзяюся, што не трапляю. Часам існаваньне самога "тоўстага" часопіса, які цягам дзесяцігодзьдзяў друкуе немаведама што, можа быць апраўданае зьяўленьнем аднаго маленечкага, але геніяльнага верша, якое, як некалі сьмерць аднаго толькі чалавека скупіла грахі ўсяго чалавецтва, адкупіць няздатнасьць усёй літаратуры. Я не кажу пэрсанальна пра сябе і пра часопіс "Полымя".


Фота - Улад Урзаў

**– Ці актуальная для Вас праблема аўтарытэтаў у мастацтве?**
- Па шчырасьці, я ня бачу тут ніякай праблемы. Я пакланяюся велічным творам мастацтва і захапляюся людзьмі, сілай генія якіх яны створаныя. На жаль, таленту навучыць нельга, але часам можна пераняць досьвед і майстэрства, імкненьне да дасканаласьці. Для мяне прыкладам шчырых і самаахвярных адносін да жыцьця і творчасьці, да канца яснай і асэнсаванай пазыцыі ў адносінах да сябе і грамадзтва зьяўляецца Оскар Уайльд - чалавек, які нягледзячы ні на што ня здрадзіў сабе ні ў мастацтве, ні ў жыцьці. Гэтаксама як у свой час Сакрат і Ісус Хрыстос.

**– П'еса "Загублены рай" пяцікурсьніка Курэйчыка, якога ставяць на лепшых сцэнах Беларусі і Расеі, рызыкуе стаць бомбай, і Вашая мара можа спраўдзіцца: у менскіх тэатрах зьявіцца цікавы спэктакаль, па квіток на які варта выстаяць кіляметровую чаргу ў касу.**
**Але ці не баіцеся Вы, што ўжо зараз такая папулярнасьць у пэўным сэнсе штучная: на яе працуе добрая масмэдыйная раскрутка?**
- Я не баюся. Справа ў тым, што ёсьць некалькі сфэраў, дзе прыроду не падманіш ніякімі "раскруткамі", ніякай дэмагогіяй, дзе не дапамагаюць ні блізасьць да ўладаў, ні грошы. Гэта спорт: ты альбо бярэш шэсьць мэтраў з шастом, альбо не. Гэта навука: ці ты адкрыў тэорыю верагоднасьці, ці не адкрыў. Гэта мастацтва: з тых дзясяткаў тысячаў савецкіх пісьменьнікаў, якія былі сябрамі Саюзу пісьменьнікаў СССР, у вечнасьці засталіся Пастэрнак, Булгакаў, Зошчанка - ня больш за два-тры дзясяткі, якіх пры жыцьці не друкавалі і ня ставілі...
Я гатовы да таго, што хуткі ўзьлёт зьменіцца рэзкім падзеньнем. Што на мяне забудуцца, магчыма, на дзесяцігодзьдзі... Але рассудзяць мяне ў выніку толькі час і мае творы...

**– А што Вы будзеце рабіць, калі, як у выпадку з Адамам, Бог перастане размаўляць з Вамі?**
- Спадзяюся, што нічога ня буду рабіць. Людзі, якія згубілі свой дар, але па нейкіх прычынах не жадаюць гэтага прыняць, вартыя шкадаваньня. Таму Арцюр Рэмбо, які перастаў пісаць у дзевятнаццаць, бо яму не было чаго сказаць людзям, назаўжды застанецца геніяльным францускім паэтам, і пра яго будуць памятаць заўжды. Пра большасьць жа нашых пісьменьнікаў - не.

**– Чаго Вы баяліся ў дзяцінстве?**
- Шчыра кажучы, ня памятаю. Мая памяць часам вырабляе дзіўныя штукі. Памойму, мяне моцна напужаў сабака Баскервіляў, фільм "Дэманы". Вышыні баюся.

**– Хто з драматургаў мог аказаць на Вас уплыў?**
- Шэксьпір, Горын, Шоў, Гогаль.

**– "Мастацтва павінна быць ці геніяльным, ці ніякім. Я не прымаю паўмераў і кампрамісаў у мастацтве!", – заявілі Вы. А як наконт Вас і Вашых тэкстаў?**
- Для мяне твор мастацтва можа адбыцца толькі пры злучэньні чатырох асноўных складнікаў: таленту, шчырасьці, майстэрства, густу. Адсутнасьць хаця б аднаго зь іх абясцэньвае ўвесь твор. Я ведаю, што я шчыры - астатнія складнікі могуць быць ацэненыя толькі іншымі людзьмі, таму, ужо выбачайце, адносна сваёй творчасьці нічога больш не скажу.

**– Якія тэксты ўразілі Вас за апошні месяц?**
- Мюрыэл Спарк, аповесьці "Баляда прадмесьця" і "На публіку", лісты Оскара Уайльда.

**– Хто ці што можа справакаваць Вас на неадэкватныя ўчынкі?**
- Небясьпека, мае перакананьні, гонар. Я не разумею, што адэкватна, а што не. Для мяне зло ў любых яго праявах - ужо неадэкватнасьць. Я не разумею, чаму б не паказваць па тэлевізіі, як людзі займаюцца сэксам. Гэта натуральнае і карыснае баўленьне часу. Я не разумею гэтага блюзьнерства: усе гэтым займаюцца па начох, а як убачаць па тэлевізары - чырванеюць і адводзяць вочы. Памойму, гэта маразм.
Шмат з чаго, што грамадзтву падаецца неадэкватным, мне ўяўляецца зусім нармальным.

**– Зь якімі імёнамі ў Вас асацыюецца Беларусь?**
- Купала, Колас, Лукашэнка.

*Гутарыў Ян Міхевіч*



аўтарава прадмова

# застольны альбом "Крамбамбуля"

**Усе беларускія "супольныя музычныя праекты" выйшлі з "Народнага альбому". Напрыклад, Алесь Суша, калі задумваў свае праекты, меў у CD-прайгравальніку НА, слухаў яго, набіраўся станоўчых эмоцыяў і натхняўся. Зрэшты, "Народны" так і застаўся непераплюнуты: вядзецца не пра якасьць запісу, а пра, даруйце, мастацкія вартасьці.**

ПРА ВЫТОКІ. Не, сапраўды, НА мае некалькі розных лініяў. Як жыцьцё. Тут табе й чатыры пары году, тут і патрыятычная лірыка. Тут і прыкол, і застольны тэмат, і трагізм, і імпэт, і традыцыйная мляўасьць... Прысутнічае ў НА і сьвяточны калядны тэмат ("Сьнежань, студзень, люты"). Зь яго выйшаў "Сьвяты вечар-2000". Ёсьць патрыятычны тэмат, напрыклад, "Край ты мой, край". Адсюль маем "Я нарадзіўся тут".

Шмат надаецца ўвагі ў НА тэмату застольнаму, альбо, калі казаць правільна, бяседнаму. Таму абсалютна лягічна, што мусіў быў паўстаць асобны застольны (бяседны) альбом, тым болей, што "беларусы нічога ж ня маюць", акрамя зборнікаў "Для братвы - 2", якія й слухаюць у якасьці застольнага суправаджэньня п'янак-гулянак пад "Крыжачок" (таксама апеты адной камандай).

ДЫК ВОСЬ. Гралі мы "Народны альбом" па розных заграніцах, і падумалася мне: "А чаму б не зрабіць асобны альбом, прысьвечаны застольлю?" Ад гэтых думак да рэалізацыі прайшло блізу трох гадоў.

У галаве Сярожы Канановіча (Hasta La Fillsta) часта ўзьнікаюць ня рокавыя, а нейкія брутальныя "бытавыя" тэмы. Яму б саўндтрэкамі займацца ў вольны ад асноўнае працы час. Але кінабізнэс у Беларусі загнуўся, і саўндтрэкамі займаецца адно толькі Дзіма Вайцюшкевіч.

Вось мы неяк пазнаёміліся з вышэйзначаным Сярожам, а ён мне й гаворыць: куды ж мне прыстроіць гэтыя некалькі тэмак? І выкідаць ня хочацца, і граць няма дзе. Бо гэта ніякі ня рок. Хіба што якісьці рол.

Па іроніі лёсу я таксама меў пару такіх песенек. Дзякуючы адсутнасьці кінабізнэсу яны таксама боўталіся бяз справы. Тут да нас падышоў басіст Уладзік і сказаў, што ніколі ня граў такія выдатныя песьні раней, і хочацца паспрабаваць. Тут прыйшоў Ганс (бубнач "Улісу") і гаворыць, што даўно хацеў граць на вясельлях, а з такой праграмай гэта дакладна атрымаецца. Ну, так усё й пачалося. Потым узьнік кансэрваторскі скрыпач Саша Хаўкін, і склад сфармаваўся канчаткова.

У прынцыпе, натуральна, што ўсё гэта можна назваць "супольны музычны праект". Але гэтае словазлучэньне па незалежных ад нас абставінах зрабілася брэндам, зьвязаным зь іншай музыкай і іншымі музыкамі, таму назавем гэта "застольны альбом "Крамбамбуля"".

ШТО ТЫЧЫЦЦА САМОГА СЛОВА "КРАМБАМБУЛЯ", дык гэта старажытны беларускі напой часоў *пітнага мёду й крупніка* (гэтыя напоі прыватызавалі цяпер палякі. І вельмі добра, бо бязь іх ніхто б наагул не згадаў пра гэтыя напоі ў нашым каралеўстве Крыжачка). Калі казаць каротка, дык гэта гарэлка зь мёдам, перцам і рознымі спэцыямі. Мне дык вельмі падабаецца ў малых дозах. Дарэчы, рэцэптам зацікавіліся ў рэстаране "Печки-лавочки" і, напэўна, будуць вырабляць.

АЛЕ! Вернемся да гісторыі. Не напояў, а нашага альбому. Панапісалі мы аж 14 песень. Тут матэрыялізавалася Анечка (мэнэджэр ці прадусар, я не разьбіраюся). Гаворыць, гэты найвыдатнейшы альбом, які можна нават граць на вясельлях і прэзэнтацыях, трэба дзіка якасна запісаць. "Паедзеце ў Польшчу на дарагастоячую студыю!"

Мы не пасьпелі нармальна адрэпэтаваць матэрыял, як ужо ехалі ў Лодзь. Ачомаліся на студыі ў працэсе запісу песень. Гукарэжысэрам у нас быў (і ёсьць) Шлёма, які доўгі час ціхенька сядзеў на "Міры" й рыхтаваўся да вайны. Падрыхтаваўшыся, ён пачаў працаваць з рознымі пасьпяховымі праектамі тыпу Памідора і нас.

І вось мы пішам усё гэта ў дарагой эўрапейскай студыі, а Анечка ўвесь час гаворыць, што якасьць мусіць быць найвышэйшая, бо яна, маўляў, напасьчала на ўсё гэта дзікую колькасьць грошай, і трэба, каб выйшла тое на тое. Калі мысьліць цьвяроза, дык якасьць напраўду атрымалася як пасьля трэцяе ачысткі.

СТУДЫЯ належыць тэкстыльнаму магнату-прафэсіяналу і музыканту-аматару Кшыштафу Ежы Краўчыку. Сьмешна тое, што гэты Кшыштаф - супразванца польскага поп-караля Кшыштафа Краўчыка. Гэты кароль - кумір усіх польскіх хатніх гаспадыняў і вясковых дзяўчын. Яшчэ вядомы тым, што Брэговіч запісаў супольна зь ім свой чарговы польскі альбом.

Нашая сэсія была перарваная тым, што ўсе вышэйзгаданыя Краўчыкі пачалі запісваць на студыі калядку пра зорачку. Панаехала тэлебачаньне, мора людзей, і ўсе дружна працуюць-п'юць.

Неяк Кшыштаф Краўчык (які поп-кароль) падышоў да Шлёмы і пытаецца:

- А як вас завуць?
- Шлёма, - адказвае той.
- Цікавае імя, - зазначыў КК.

Пасьля чаго падняў кілішак віскі, прамовіў:

- Браты беларусіны, за вас! - і выпіў.

Гэты кілішак потым доўга стаяў у нашым пакоі пад елачкай (усё было напярэдадні Калядаў), пакуль аднойчы Шлёма ня вырашыў пакарыстацца ім па прызначэньні. Трэба зазначыць, што ён так накарыстаўся ім, што спаў палову ночы ў адзеньні, і тады мы зразумелі, што легендарны кілішак Кшыштафа Краўчыка ледзьве не ўдвая большы за тыя, якімі карысталіся мы.




хор у песьні "Сіні нос"


Шлёма за працай


Уладзік пасьля працы


Анечка і Л.В.

СУРОДЗІЧЫ. А падсеяў нам гэтую студыю бубнач польскае каманды "Пралетарыят" Робэрт "Малы" Гайдук. Ён там, як высьветлілася, працуе гукарэжысэрам. Ён і быў асноўным Шлёмавым калегам і памагатым. Ён жа ж і падпявае на некаторых нашых песьнях, нягледзячы на поўнае няведаньне беларускае мовы. Да таго ж ён грае на літаўрах і шэйкеры.

А вакаліст "Пралетарыяту" Томаш "Олей" Алейнік, культавая постаць у польскім року, падпявае ў мурынскай песьні "Кутата-мутата".

І ДР. Нарэшце мы ўсё адпісалі і прыехалі на радзіму. Было вырашана аздобіць песьні спэцэфэктамі (для настрою). Гэта заняло месяц. Займаўся гэтай справай Анатоль Додзь (той, што зрабіў калісь "Народны альбом").

Калі ўсё было зроблена, Шлёма вазіў альбом на мастэрынг у Маскву да мэтра гэтае справы сп.Субоціна. Таксама па-багатаму.

ЦЯПЕР ПРА ЗЬМЕСТ. Тут поўны інтэрнацыяналізм, эклектыка і постмадэрнізм. Бо, калі сьпяваць пра піва, дык адразу ўзьнікае вобраз старэйшага нямецкага брата, а калі пра гарэлку, дык малодшага цыганскага. А калі пра абсэнт, дык бачыш перад сабою Парыж, у які ўвесь час хочацца (гэта сьвята, якое заўжды далёка ад цябе). З тэкілай і віскі, здаецца, усё зразумела. Дый наагул, матэрыял для творчасьці найбагацейшы!

Адно што тут зусім не вядзецца пра спойваньне малалетак, п'янства ды алькагалізм. Атрымалася, здаецца, наадварот, даволі эстэтна, культурна й весела. Ну, максімум па тры кілішкі. Ці па пары куфляў піва. Ці па келіху вінца. Ну, па 50 абсэнціку (болей ня варта, бо дзіка моцны!). Трэба прыўнесьці на нашую гаротную зямельку культуру спажываньня напояў. Якасных напояў. Якасных, як крамбамбуля. Як "Крамбамбуля", старажытны рэцэпт, музычны праект і новы брэнд.

*КАМЭНТАРЫ АЎТАРА І РЭДАКЦЫІ*

***"Супольныя музычныя праекты"*** *- новая жыцьцясфэра беларускіх музыкаў. Аднойчы, калі мы былі на дзяржрадыё, вядомая журналістка даводзіла радыёслухачам, што "Супольны музычны праект" - гэта назоў гурту.*

***Алесь Суша*** *- рок-Напалеон-2001, які вырашыў, што "Супольныя музычныя праекты" можна бамбіць з айчыннымі рокерамі мінімум раз на год. Пакуль атрымліваецца.*

***Сярожа Кmasterнановіч*** *- былы гітарыст менскай каманды Hasta La Fillsta, о-о-о-чэнь харошы музыкант.*

***Дзіма Вайцюшкевіч*** *- гл. раней.*

***басіст Уладзік*** *- гл. раней.*

***Ганс (бубнач "Улісу")*** *- гл. раней.*

***скрыпач Саша Хаўкін*** *- гл. раней.*

***Анечка*** *- мэнэджэр ці прадусар (мы не разьбіраемся), баявая падруга Л.В.*

***Шлёма*** *- гукарэжысэр сумна-задуменнага выгляду.*

***Памідор*** *- гл. на два пункты раней.*

***Брэговіч*** *- ну такога ня ведаць, дык аж сорамна!*

***"Пралетарыят"*** *- гл. раней.*

***Анатоль Додзь*** *- як і Шлёма.*

***Субоцін*** *- як і Шлёма, толькі ў Маскве жыве, а таму дарагі.*

# БЕЛАРУСКіЯ ХХХ-ФАЙЛЫ

## *ісьціна недзе побач*

***Усе ведаюць, што калі наступае ноч, у інтэрнэт напаўзае людзей, апантаных думкамі пра сэкс. Пасядзіце ў ICQ уначы пасьля першай гадзіны - самі пабачыце, хто і па што будзе да вас зьвяртацца. Ды што я кажу! Уначы... Яны заўсёды там!!! І вядома ж, інэт задавальняе гэты попыт, бо ўсё, што можа прыцягваць увагу, разрастаецца там да неверагодных памераў. Паглядзім, што прапануе ахвочым да "гарачанькага" байнэт.***

**WARNING Усіх, хто паспрабуе тут жа пайсьці і праверыць, наколькі гэты артыкул адпавядае праўдзе, хачу папярэдзіць.**
**Па-першае: у інтэрнэце досыць брутальныя разнавіднасьці сэксу! Звычайна простыя чалавечыя фізыялягічныя забавы суправаджаюцца натуральнымі і параўнальна цнатлівымі пачуцьцямі, але тут... У досьледах беларускіх ххх-файлаў вы маеце шанец аднойчы і назаўжды атруціць сваё лібіда жаданьнем забіваць (правайдэра - за малую хуткасьць і вялікія грошы, распрацоўшчыкаў сайтаў - за крывую загрузку, супрацоўнікаў мясцовай АТС - за ўсё на сьвеце і да т.п.). Магчыма, адчуваньне, што вас брудна маюць, не пакіне ўжо ніколі... Карацей кажучы, небясьпечная гэта штука...**
**Калі вас не засмуціў пункт першы, па-другое: каб забаўляцца сэксам у байнэце, трэба мець тоўсты канал. Прынамсі, калі вы візуал. Тады ёсьць шанец, што вашыя недарэчныя целарухі скончацца асалодай і вы ня проста скачаеце пару карцінак, але знойдзеце менавіта тое, што сапраўды кране.**

Што прапануе нам байнэт у пляне сэксу? Нічога асаблівага, звычайны набор: карцінкі, тэкстуалка, форумы, чаты, мэдлітаратура, знаёмствы, рэкляма дзяўчынак па выкліку. Лепей пройдземся па пэрсаналіях, так бы мовіць, здымем першы слой, які праступае падчас першай пары начэй.

**БеларусьЭдалт** (Belarusadult). Самі аўтары лічаць, што сайт прысьвечаны забаўкам, якія можна знайсьці ў Менску. 60-80% сайту прысьвечана сэксу. Можна падумаць, што Менск - гэта ціхі, правінцыйны горад, дзе акрамя



Ліля РУДАЯ

ГЭТАГА заняцца няма чым (гэта я так, у рамах злобнай сатыры). Сярод іншага сайт утрымлівае інфармацыю па інтым-паслугах, хваробах, ёсьць сэксуальныя форумы і форумы знаёмстваў, досыць урыўкавыя тэксты на сэксуальныя тэмы (як зь інтрыгай, так і з узбуджэньнем).

**Беларуская прыгажосьць** (Belarussian Beauty) Утрымлівае безьліч фотак. Вабіць тое, што гэта цалкам аўтэнтычная візуалка: аўтарскія фота на мясцовым матэрыяле (беларускія фотамадэлькі, аматаркі і г.д.), эратычныя малюнкі. Але тыя, хто любіцьназіраць капуляцыю з розных кропак, тут пралятаюць: усё высокамастацкае, але не ўзбуджальнае.

**МінскСэкс** (minsksex) Няма таго, што раньш было. Колісь мой знаёмы, які працаваў на гэты сайт, лічыў сябе беларускім Лары Флінтам. Ён рабіў для сайту фоткі на грані фолу, што і патрабавалася - іх зьмяшчалі. Зараз ад усяго sex засталася сыстэма канфэрэнцый з абавязковай рэгістрацыяй (якая, дарэчы, патрабуе, каб вы паведамілі свой мэйл).

**Інтым-байнэт** - беларускі сэкспартал. Сэкс-чат, форум, знаёмствы, бібліятэка, спасылкі. Сайт ня надта шыкоўны, але мае прыемную сяброўскую атмасфэру. Файная калекцыя спасылак з камэнтарамі.

**МінскНайт** (MinskNight) - забавы начнога гораду. Мае вельмі прывабны банэр (паўраскрытыя ярка пафарбаваныя дзявочыя вусны), клікнуўшы на які можна патрапіць на вытрыманы ў вясёленькіх карычневых фарбах сайцец. Старонка запоўненая інфармацыяй пра рэстараны, кавярні, бары, стрыптыз-шоў. Адзінае, што тут стасуецца з нашымі інтарэсамі - разьдзел "спадарожніцы", дзе інфо пра 5 дзяўчынак па найме: кантакты і тактыка-тэхнічныя характарыстыкі, нават адрас сайту адной зь іх. Акром таго, тут ёсьць два дзясяткі такіх жа аб'явак, перадраных з газэт.

**КісБай** (KissBy) Файненьні сайцік. Ружова-аранжавенькі такі, жвавенькі, з малюначкамі (у разьдзеле "прыгажунькі" больш за восем падразьдзелаў, сярод якіх "салодкія попкі", "мокрыя дзяўчонкі"). Адное засмучае: гэты сайт падазрона падобны на kiss.ru. І ня надта зьдзіўлюся, калі існуе які-небудзь міжнародны kiss.com. Такі ж самы. Дый карцінкі ў іх "ня месныя"...

**Аголеная Беларусь** (NakedBelarus). Тут мяне чакала жудаснае расчараваньне! Назва сайту выклікала непадкантрольныя ўнутранай маралі асацыяцыі: чакала пабачыць здаравенных беларускіх гладкапаголеных мужыкоў ва ўсялякіх эратычных апранахах. Ня лёс. Сайт утрымлівае калекцыю аўтарскіх эратычных фотак і малюнкаў. Шчыра кажучы, фоткі хутчэй аўтарскія, чым эратычныя. Але аматарам бандажу ёсьць што паглядзець. Калі здолееце скачаць.

**ІнтымШопБай** (IntimShopBy) - адзіны ў Беларусі sexshop. Тут усё інтым: інтым-касмэтыка, інтым-цацкі, інтым-сувэніры і г.д. Наведваньне гэтага сайту пашырыць ваш інтымны кругагляд раз і назаўжды! І што самае прыемнае, тут можна ня толькі паглядзець, але і набыць упадабаныя цацкі. Yeah baby!

**NakedZubr**. Поўны аблом! Калі клікнеце па банеры, на тым канцы вас чакае сайт руху моладзевага супраціву "Зубр". Тут вас навучаць Бацькаўшчыну любіць. Прыемнага прагляду.
Геі і лесьбійкі ў байнэце маюць чатыры ці пяць сайтаў. Але іх я б назвала хутчэй інтэлектуальнымі, чым эратычнымі.

**БайЛон**. Сайт беларускіх аматараў нэйлону. Тых самых, якім падабаюцца гладзенькія дзявочыя ножкі ў эратычна парваных калготках. Маецца тэкстуалка і некалькі галерэй з фоткамі. Падаецца, гэта сапраўднае беларускае (калготкі Брэсцкага панчошнага камбінату цяжка не пазнаць) порна, разьлічанае, лішне казаць, на вельмі спэцыфічны густ.

# diggers

# МЕНСКІ ВАРЫЯНТ

Алесь Міхайлоўскі

***Беларусь, як заўсёды, "наперадзе плянэты ўсёй". Калі ў глыбока цывілізаваных краінах дыгерызм афіцыйна існуе больш за 80 гадоў, а ў такой жа глыбокай, але не настолькі прасьветленай Расеі – амаль 20 гадоў, то ў краіне з насельніцтвам, роўным па колькасьці неафіцыйнай арганізацыі "Diggers of Underground Planet", гэты рух знаходзіцца ў зародкавым (калі не сказаць – у процізачаткавым) стане.***

## Дзеці беларускіх сутарэньняў

Тусоўкі дыгераў выяўленыя пакуль толькі ў сталіцы нашай неабсяжнай радзімы. Дый тое іх толькі дзьве. І яны яшчэ не перасекліся: дасьледуюць падземныя камунікацыі ў розных раёнах Менску.

Адна з кампаній дыгераў дзейнічае ў цэнтры. У іх нават ёсьць уласны сайт. Толькі вось адрэса www.digger.minsk.com выдае спасылку на іншы сайт, на якім нічога няма. Бывае...

Затое другую тусоўку я адкапаў без асаблівых цяжкасьцяў. Яна займаецца дасьледаваньнем ліўневай каналізацыі ва Ўруччы. За чатыры гады дыгеры прайшлі блізу 20 кілямэтраў. Тое, што гэта нямала, я зразумеў, калі прайшоў разам з Dustin'ам і Alex'ам адзін - самы лёгкі, "азнаямляльны" - кілямэтар. І калі мае кампаньёны пачуваліся пад зямлёй вольна, дык мне зусім не хацелася прамачыць ногі ды выпацкаць нагавіцы. Таму даводзілася "быць бурсонікам" - ісьці, шырока расстаўляючы ногі.

## Падземныя "культуры"

Для дыгераў сьвятла ў канцы тунэлю няма. Яно, сьвятло, прабіваецца ў сутарэньні толькі зьверху - праз адчыненыя шлюзы (гл. "Слоўнік"). Пад зямлёй пацьвярджаецца пралетарская прымаўка пра тое, што цемра - сябар моладзі. Я заўважыў шмат сьлядоў знаходжаньня ў ліўнесьцёку тынэйджэраў. На сьценах - назвы гуртоў, анархікі ды пацыфікі, на падлозе - пустыя пляшкі з-пад сьпіртанасычаных вадкасьцяў, пакеты з клеем. Але звычайныя "дзеці вуліцы" далёка ня соваюцца: яны мешкаюць побач са станцыямі, дзе яшчэ досыць сьветла.

Пры даволі




вялікай захламленасьці паблізу станцыяў на сьляды знаходжаньня чалавека перастаеш зьвяртаць увагу. Але ж зялёная елка ў паўзмроку прымушае спыніцца і ўглядацца, нібы ў прывід. Сюррэалістычнасьць сытуацыі разьвейвае Alex: тлумачыць, што яны з кампаніяй сустрэлі 2002 год у гэтым сваім сьвеце. Ніякіх пэтардаў, ніякіх тэлевізараў, замест курантаў - звычайны будзільнік: прыёмнікі пад зямлёй не працуюць, бо жалезабэтон ды грунт не прапускаюць радыёхвалі.

Калі ўручанская ліўнеўка абжытая ў асноўным тынэйджэрамі, то ў менскіх сутарэньнях наагул сустракаюцца і сьляды іншых насельнікаў мэгаполісу. Бамжы часьцей за ўсё абжываюць шлюзы цеплатрас: у ліўнесьцёку для іх занадта халодна і мокра. Хоць часам, кажуць мае спадарожнікі, бамжы ўсёткі наведваюцца і сюды. Яшчэ адзін падземны "гурток па інтарэсах" - сатаністы. Сутарэньні буйных гарадоў - ці ня самае ўлюбёнае іхнае месца. У Менску капішчаў пакуль ня знойдзена, але ж у адным з самых мокрых і цяжкадаступных тунэляў, калі верыць Dustin'у, сьцены размаляваныя пэнтаграмамі, перавернутымі крыжамі ды іншай д'ябальшчынай.

## Адрэналін

Па сутнасьці, на гэтым гармоне пабудаваная ўся моладзевая культура. Але ў дыгераў арганізм выпрацоўвае яго ў надта вялікай колькасьці. Пад зямлёй на дапамогу разьлічваць не даводзіцца, а пра спускі ведаюць толькі іх непасрэдныя ўдзельнікі. І хоць у Менску трасы пралягаюць не глыбей за 25 мэтраў і яны не такія заблытаныя, як у Маскве ці Нью-Ёрку, заблудзіць пры жаданьні можна.

Пад зямлёй больш выразна адчуваеш уласныя страхі, якія ў асноўным грунтуюцца на інфармацыі, набытай зь іншай сьцёчнай канавы - інтэрнэту. У Менску даволі шмат сакрэтных аб'ектаў: вайсковыя часьці, НДІ, урадавыя будынкі. Пачуваесься неяк няўтульна, калі траса ўпіраецца ў бэтонную сьцяну, і ты ведаеш, што мэтрах у пяці над галавою - вайсковая часьць. Якраз тут прыгадваюцца інтэрнэтаўскія байкі пра перагародкі, якія аўтаматычна зачыняюцца, ды пра людзей у масках і са зброяй. Але пра тое, што зь нечым такім сутыкаліся ў Менску, інфармацыі няма...

Калі ідзеш у цемры па ліўнесьцёку, разумееш, што ўсё тут жыве па сваіх уласных законах - законах шуму і цемры. Калі ў трасе людзі, заўседы чутныя якія-небудзь гукі: шоргаты, рыпеньне, крокі, подых. І ў той момант, калі ўсе раз-ам прыпыняюцца і заміраюць, пачынаецца самае жудаснае - незразумелыя гукі працягваюць блукаць навокал. А калі да таго ж у промні ліхтара прамільгне які-небудзь цень... Некалькі разоў у такіх абставінах дыгеры "тэрмінова эвакуаваліся". Папросту - давалі драла.

Пад зямлёй неяк не да прыколаў. Але й іх хапае. Неяк на Тройцу мае спадарожнікі дасьледавалі незнаёмую трасу. Дайшлі да офіса (ізноў гл. "Слоўнік"), але ж люк не падымаўся. Вырашылі ісьці далей, хоць за плячыма быў ужо не адзін кілямэтар. Ля адной са стаянак знайшлі шкілет нейкай жывёліны. Падняўшыся па трапе, адну з костак прасунулі праз вымаіну на паверхню, каб потым паглядзець, чаму люкі не адчыняюцца. Дзесьці праз 1-1.5 км адзін люк усё-ткі паддаўся. Падняўшы пэрыскоп, Alex заўважыў, што выхад знаходзіцца ў гародзе, дзе поркаецца гаспадыня. Сілаў працягваць вандроўку не было, і каб неяк выбрацца, не вяртаючыся па калена ў вадзе, давялося браць нахабствам. Некалькі маладзёнаў раптоўна зьявіліся з-пад зямлі, чым надта зьбянтэжылі кабету. Але ж тое, што яны назваліся работнікамі Мінгарвадаканалу, а Alex, паказаўшы адваротны бок пасьведчаньня сэкс-інструктара, паабяцаў, што празь некалькі дзён у жанчыны будзе гарачая вада, зусім зьбіла яе з панталыку: ёй і за халоднай даводзілася хадзіць зь вёдрамі да калёнкі. Пакуль яна згадвала, якія пабочныя эфэкты могуць быць у тых лекаў, што яна прымае, дыгеры былі ўжо далёка. Знайшлі костку: яна тырчала з-пад бэтоннай пліты, якую здолелі падняць толькі ўшасьцёх...

## Спэцыялізацыя

Падземныя камунікацыі складаюцца ня толькі з



сыстэмы ліўнесьцёку: тут і звычайныя каналізацыі, і цеплатрасы, і мэтро, і бамбасховішчы. І калі ў мэтро, каналізацыю ці цеплатрасу трапіць даволі лёгка, то ўваход у бамбасховішча бяз мапаў ці плянаў вайскоўцаў адшукаць можна хіба што выпадкова. Дый у каналізацыю без спэцыяльнага рыштунку ня сунесься. Пакуль што адзіная спроба Dustin&Alex&Co трапіць у звычайную гарадзкую каналізацыю скончылася няўдала. Пасьля таго як была адкінута капейка (не забывайся на "Слоўнік"), у шлюз кінулі падпалены паралён. Выбух быў невялікі, але ж уражваў. Ад смуроду могуць уратаваць рэсьпіратар ці кіслародная маска, але забыцца, як выбухае мэтан і іншыя прадукты гніеньня, цяжка.

Напрыканцы Dustin чамусьці кідаецца ў развагі пра тое, што насамрэч дыгерызм - даволі бясьпечнае хобі, калі ня лезьці куды ня трэба і мець добрую падрыхтоўку.




Маўляў, у калектары ў раёне Ўручча нічога сур'ёзнага здарыцца ня можа хаця б з тае прычыны, што тунэлі разгаліноўваюцца па гарызанталі і рэзкіх спускаў няма. "Самае страшнае- выцяцца галавой аб столь скляпеньня ці пасьлізнуцца. А насамрэч наземны шлях над трасай нашмат цяжэйшы (усьміхаецца) - адчыненыя люкі, вымаіны... Ногі можна паскручваць."

Усё. Разам зь людзьмі, якім больш зручна хадзіць пад зямлёй, чымся па зямлі, я па сьлізкім трапе ўздымаюся на паверхню. Вечар. Пустка. Цалкам незнаёмае мне месца. Адчуваньне такое, нібыта вярнуўся зь нейкае паралельнае прасторы, пра матэрыяльнасьць якой сьведчыць толькі бруд на джынсах...



## СЛОЎНІК СЯРЭДНЕСТАТЫСТЫЧНАГА ДЫГЕРА

**траса – калектар, ліўнесьцёк, труба;**
**скрыжаваньне, шыфт – сыходжаньне ці разыходжаньне некалькіх трасаў;**
**пакой – любое пашырэньне трасы;**
**офіс – вялікі пакой вышынёй у 20 мэтраў;**
**трап – лесьвіца;**
**стаянка – пакой з магчымым выйсьцем;**
**вежа – пакой з замураваным люкам;**
**калодзеж – пакой бяз трапа;**
**шлюз, станцыя – пакой з адчыненым люкам і трапам;**
**ключ – сагнуты мэталічны прут для адчыненьня люкаў;**
**капейка – крышка люка;**
**вока – ліхтар;**
**малёўка – маркер, аловак і г.д.;**
**адзначыцца – пакінуць на сьцяне надпіс;**
**даць нырца – спусьціцца ў шлюз;**
**падняць пэрыскоп – агледзецца, не выходзячы са шлюза;**
**быць бурсонікам – ісьці, шырока расстаўляючы ногі;**
**плысьці – ісьці па вадзе;**
**рухавік, матор, дызэль – батарэйка, акумулятар;**
**зіпа, агніва – запальнічка;**
**друіды – чужыя на трасе.**

# першы музычны канал
## SWITCH ON



Алена Шалаева

**Чалавек – раб звычкі. Ужо другі месяц спрабую супакоіць сябе гэтай думкай, калі цісну на "вкл." свайго "Віцязя" і шукаю шосты канал на пульце. Я – сярэднестатыстычны "прыхільнік сучаснай музыкі": мне надакучыў беларускі FM, які загнаны фарматна-ратацыйнымі рамкамі ў тупік, мяне не прыкалвае ад музычных газэт і часопісаў – не люблю снабізм і рабалепства. Таму мы, простыя гледачы, штодня і ўзламваем шэры ТБ-этэр "Першым музыкальным", таму я, журналістка CD, станоўча рэагую на прапанову рэдактара зрабіць матэрыял пра "1".**

Як і дамаўляліся, а 8-й вечару на чацьвертым паверсе аднаго са шматлікіх дасьледчых інстытутаў, дзе месьцяцца офісы "1-га", мяне сустракае Оля Багданава (вядучая "Формата") - яна згадзілася паапекавацца мной. Перад гэтым на першым паверсе маю паказальны дыялёг з вахцёрам (ён мне: "А вы што, начаваць туды ідзяце?" - "А што, там яшчэ і начуюць?" - "Рознае здараецца"), які ўкосна сьведчыць пра тое, што на "1-м" сапраўды сабраліся апантаныя працай.

"Гэта непасрэдна памяшканьне Першага Музычнага, - напачатку экскурсіі заходзім з Оляй у сярэдніх памераў пакой. - Тут і мантажныя сталы, і студыя, акрамя таго (аглядаецца па баках) зьбіраюцца тут... розныя". ("Розныя" - гэта Іван Мірскі, які рыхтуецца да запісу "Дваццаткі".)

"А вось гэта "Форматная" студыя - маленькая, але месца хапае: тут вешаем дэкарацыі (знакамітыя "фарматаўскія" лямпачкі), здымаем, мантажуем".

Антураж дае добрую нагоду пачаць размову менавіта з Олінай і Андрэевай праграмы - аднаго з фаварытаў "1".

**"ФОРМАТ"**

***(вядучыя: Вольга Багданава / Андрэй Гнёт, час выхаду ў этэр: чацьвер – 22:30, субота – 10:30)***

**Задума / працэс / стан**

Задума была навеяна Вользе сьпірытусовымі ды віннымі парамі на адным з фуршэтаў. Дазнаўшыся пра задуму, Андрэй сказаў: "ОК". Канцэпцыя нарадзілася сумбурна, таксама на адным са сьвятаў, але зь цягам часу пацярпела значныя зьмены.

Назва трансфармавалася: "Антураж" - вычытаная Багданавай у вялікім слоўніку - не пакаціла, як і "Тэрыторыя" Гнёта. "Фармат" зачапіла абодвух.

Сам працэс адбываецца па тэлефоне: Вольга ў сябе ў хаце, Андрэй - у сябе. Астатнія чальцы сем'яў паляць бамбук у калідорах сваіх кватэр. Лягатып таксама быў створаны па тэлефоне.

На сёньняшні дзень ад першапачатковай ідэі праграмы засталося толькі маленькае зярнятка. Але яно прарастае, відазьмяняецца і набірае моцы.

Толькі ўласны суб'ектыўны погляд на ўсё, свабода творчасьці ў навакольным бязладзьдзі. "Калі вам няма чаго рабіць, паглядзіце гэты сюжэт...".

Ёсьць пэўныя тэлевізійныя тэндэнцыі, за якімі Багданава і Гнёт назіраюць. Тут як у модзе: калі не абагнаць, дык дагнаць і быць у тусоўцы.

Магчымыя канкурэнты... Андрэй: "СТБ не глядзеў і глядзець не зьбіраюся. Такім можа быць толькі кабельнае тэлебачаньне ў межах Курасоўшчыны, але не Сталічнае тэлебачаньне ў цэнтры Эўропы. На першым нацыянальным падабаліся Алег Філімонаў ("Відзьма-Нявідзьма") і Алег Лукашэвіч - яны былі на даволі паважным роўні".

**Пляны / пэрспэктывы (наагул і ў прыватнасьці)**

Раскрываюцца толькі пасьля абавязковага "цьфу-цьфу-цьфу". Магчыма, гэта будзе нешта кшталту "Адстойнай дваццаткі" са спэцыфічным вядучым, з дакладным і адыёзным выражэньнем свайго пункту погляду і дэвізам "Самі сьпелі, а зараз крыўдзяцца". Усё астатняе - за межамі ўплыву забабонаў.

Мужчынская палова "Формата" жадае сумясьціць карцінку і рух, пачаць здымаць кліпы і, назапасіўшы досьвед і абсалютны прафэсіяналізм, зрабіць рэвалюцыю ў кінематографе. Жаночая палова цяжка ўяўляе, што будзе адбывацца ў наступныя тры дні, але спадзяецца на рост і разьвіцьцё.

Што да асабістага жыцьця, то яно ў кожнага сваё, тандэм "Оля / Андрэй" выключна творчы. Адзінае што Вольга марыць пра асабістае жыцьцё на працы (бо не хапае часу на астатняе), а Андрэй катэгарычны: "Пакуль пацерпім".



**ПРАГРАМНЫ ЧЫЖОЎ - INSIDE**

Вяртаемся назад. Бадзёрая для пачатку 10-ай вечару Багданава працягвае знаёміць зь месцамі славы "1-га".

"Гэта нашыя працоўныя сталы. Так! Гэта мая асадка!.. І што яна тут робіць? Далей за кампамі мантажуюцца "Дваццатка" і "Навіны". О, вось і Чыжоў! Чыжоў, ты памятаеш, што ў цябе сёньня інтэрвію? Лена, гэта той рэдкі выпадак, калі можна прыцісьнуць Чыжова да сьцяны і даведацца ў яго пра ўсё, што цябе цікавіць."

"Лепш прыцісьніце мяне да сьцяны Багданавай," - агрызаецца джэнтэльмэн і па сумяшчальніцтве праграмны дырэктар "1-га" сп. ВітальЧыжоў.

Наша размова пачынаецца з банальных ісьцін:

- Нават у Буркіна-Фасо ёсьць свой музычны канал.

**– Якой Вы ўяўляеце аўдыторыю "1" ?**

- Цяжка сказаць... Мяркую, традыцыйная - ад 14 да... У любым выпадку гэта маладыя людзі. Нашая аўдыторыя - пакаленьне Next. Менавіта яно будзе працягваць рабіць гэта празь 10-15 год.

**– Вы лічыце, праз столькі гадоў Першы застанецца Першым?**

- Вельмі спадзяюся на гэта. Будзем прыкладаць для гэтага ўсе намаганьні. Але ён не застанецца адзіным - гэта адназначна. Мы адкрылі чаргу, таму мы сапраўды першыя. Гісторыя аб'ектыўная і не дапускае падробак. Я і канкурэнтаў нам ня бачу. Пакуль ня бачу. Аднак гэта не азначае, што яны ня зьявяцца. Сам факт існаваньня нашага каналу - зьдзіўленьне для многіх на ТБ-рынку краіны. Ніхто ня думаў, што ёсьць каманда, якая здольная нешта зрабіць.

**– Як узьнікла ідэя "Калыханкі"?**

- У гэтай перадачы вельмі доўгая гісторыя. Тэксты для яе ніхто ня піша. Яна - з глыбінь народных, таму і рэйтынгавая. Памятаю першыя сымптомы "Калыханкі". Гэта было, калі я вучыўся ў Інстытуце Культуры. Сяргей Міхалок з маёй групы і Лёша Хацкевіч прыдумлялі і малявалі коміксы пра Сашу і Сірожу. Потым гэтыя коміксы трансфармаваліся ў тэлеперадачу. Зноў жа зоркі нас зьвялі ў гэты час. З усіх бакоў было і жаданьне, і магчымасьць.



**– А як яна трапіла на MTV?**

- У гасьцях у кампаніі West Records быў адзін зь сябраў Рады дырэктараў расейскай філіі MTV Юра Цэйтлін. У яго быў працоўны візіт на наш канал, тут мы і паказалі "Калыханку". А "Дваццатку першых" я яму ў цягніку паказваў.

**– На канале існуе нейкая цэнзура?**

- Не, мы досыць дэмакратычны канал. Тут падабралася каманда людзей з унутранымі абмежаваньнямі, яны ўжо прайшлі нейкія выпрабаваньні.

**– Паводле якіх прынцыпаў складаецца плэй-ліст "1-га"?**

- Удзень нашая аўдыторыя - школьнікі, што пацьвярджае рэйтынг "School parad". Гэтыя гледачы далёка не папсовыя, як нам часам падаецца. Праз гэтую праграму мы маем аб'ектыўную інфармацыю пра тое, што яны слухаюць - паўсюдна адна "альтэрнатыва". Мы добра інфармаваныя: праз дадзеныя па продажах тых ці іншых рэлізаў, праз прагляд замежных музычных каналаў, праз уласныя перакананьні мы робім высновы, што зараз слухаюць - і так складаем плэй-ліст.

**– А самі якую музыку слухаеце?**

- Я замбаваны ўласным каналам.

**– У Вас сапраўды ўсе кліпы ліцэнзійныя?**

- Справа гонару!

**– А беларускія?**

- Абсалютна аднолькавае стаўленьне да ўсіх кліпаў. Ясна, у нас тут большасьць патрыётаў, гэта значна ўплывае. Я б сказаў, некаторыя беларускія кліпы знаходзяцца ў плэй-лістах зь вялікай нацяжкай, з патрыятычных пабуджэньняў.

**– Якія Вы маеце на ўвазе?**

- Ну навошта? Ворагаў і так хапае.

*Не скажу, што размаўляць з Чыжовым напрыканцы сьветлавога дня надта проста. Чорныя акуляры, на мяжы папсовай вальяжнасьць, унутраная насьцярожанасьць і інш. асабістыя прыбамбахі. Але адназначна пагаджаюся са сп. праграмным дырэктарам: "1-ы" - не фуфло. "Мы як належыць задавальняем попыт у нішы, у якой да гэтага часу нічога не было. На нашым месцы можна было б рабіць усё больш сьціпла: навошта прадаваць мытую моркву, калі народ прывык купляць брудную? А мы ўсё адно мытую прадаем."*










# БІЛЬЯРД

## лэдзі і джэнтэльмэны ў інтэр'еры

Міхаліна

*Мы сядзелі за столікам у кавярні. Горыч кавы падсаладжвала надзея на нешта незвычайнае. Раптам ён ачомаўся:*

*– Хадзем хутчэй. А то ж зоймуць усе сталы – і не пагуляем!*

*– Сталы? Зоймуць? – не ўкладалася ў маёй галаве, якая не была гатова заканчваць вечар, што плаўна перацякаў у ноч, так экстрэмальна. Вось табе рамантыка. Куды мяне цягнуць, дзеля чаго?*

*– Пабеглі.*

*Каб сагрэцца ці каб не спазьніцца – адказу я ня ведала.*

*Вось і прыйшлі. Вэстыбюль. Шатня. Аднекуль з глыбіні даносіцца музыка. Няўпэўненымі крокамі заходжу ў залю. Вялізнае памяшканьне. Процьма маладзёнаў, распаленых азартам гульні. Недзе ўбаку засталася стойка бару. А вакол – зялёны аксаміт більярдных сталоў, дым ад цыгарак і музыка. Гэта што, більярдны клюб? Але, мусіць жа так. Дык што я ў такім разе тут раблю? Я пра більярд толькі й ведаю, што ёсьць гэтакая гульня. А больш, бадай, нічога...*

Для пачатку крыху тэорыі, якая ў нашым выпадку непазьбежная. Дзеля пачуваньня сябе калі не прафэсіяналам, дык чалавекам абазнаным.

Більярд – гэта спорт. Так, так. Більярд – гэта спорт, бо за 1 гадзіну гульні більярдыст (спартовец, чалавек, гулец – называйце як хочаце) праходзіць нешта каля 4 кілямэтраў вакол стала. Чым ня спорт? З асабістага досьведу магу сказаць: наўрад ці знойдзецца каторы з маладых інтэлігентаў, хто зь лёгкім сэрцам ахвяруе сустрэчамі зь сябрамі дзеля заняткаў спортам. Прынамсі, дзеля спорту ўсур'ёз.



А більярд – гэта модна і прэстыжна, так бы мовіць – спорт эліты. Цяпер усё больш нашых суайчыньнікаў, не зважаючы на прафэсію, імкнуцца авалодаць майстэрствам гульні ў більярд.

Більярд – гэта... Зрэшты, можна доўга пералічваць, што ж такое гэты самы більярд. Але ўсё ж лепей паспрабаваць самому.

Давай, спадару, рызыкнем павучыцца гуляць, хай сабе пакуль і на паперы. Затое ж як апынесься пры стале з кіем у руках, будзеш ведаць, што й як дзеецца ды дзеля чаго ўсё напрыдумляна.

Існуе тры гульні на більярдзе – пул (амэрыканка), рускі більярд і снукер. Самымі распаўсюджанымі зь іх ёсьць пул і рускі, снукер – для прафэсіяналаў. Найчасьцей у менскіх більярдных клюбах гуляюць на рускім більярдзе.

### "Руская піраміда"(71 пункт)

Мэта гульні – першым набраць 71 пункт.

Выкарыстоўваюць у гульні біток і 15 мэтавых шароў – ад 1 да 15. Біток нумару ня мае, і таму мусіць адрозьнівацца ад іншых альбо колерам, альбо расфарбоўкай. Лік вядзецца ў залежнасьці ад нумару забітага шара. І толькі за забіты "туз" залічваецца 11 пунктаў. Перад тым, як ударыць, ты мусіш зрабіць заказ – паведаміць суперніку, які шар і ў якую лузу забіваеш. (З асабістага досьведу адзначу: калі ты адно пачынаеш гуляць у більярд, выгадней біць у сярэднія лузы, бо яны большыя па дыямэтры за кутнія.) Выйграе той, хто першы набярэ 71 пункт. Здаецца, нескладана.







Наступная гульня на рускім стале – **"Маскоўская піраміда"**. Тут проста. Мэта – забіць першым 8 шароў.

Нарэшце можна ўздыхнуць спакойна – тэорыя скончаная.

Цяпер вечар твой можа набыць колеры. Колеры азарту. Колеры інтрыгі. Колеры гульні. Хіба застаецца вызначыць накірунак.

У Менску дастаткова більярдных клюбаў – на розны густ. Ясная рэч, найбольш зручна выбраць самы блізкі ад свайго дому. Але ж зусім ня факт, што натрапіш на тое найлепшае. Таму варта зазірнуць у клюбы **"Гранд"**(пр.Ф.Скарыны 169), **"Піраміда"**(Чарнышэўскага 10а), ці ў гатэль **"Урсул"**(П.Глебкі 11).

Самыя-самыя зь іх, бадай што, гэта...

Більярдна-спартовы клюб **"Шчасьлівы ўдар"**, што па вуліцы Кальварыйскай, 1. Знайсьці лёгка: ст.мэтро Фрунзэнская, адразу каля крамы "Бізон". Сюды раю хадзіць вялікай кампаніяй. Тут – вялізная прастора для маладое асобы. У падмогу й падмацаваньне – музыка. Тут добрыя напоі. І самае важнае: менавіта тут, заплаціўшы за арэнду стала, можаш папрасіць трэнэра па більярдзе пазаймацца з табою. 10 заняткаў – і ты амаль прафэсіянал. Акурат у гэтым клюбе трэніруецца зборная Беларусі па більярдзе. Адсюль высновa – сталы, кіі, шары і, безумоўна, трэнэры тут на ўзроўні – што да навучаньня гульні й баўленьня часу зь сябрамі. Што называецца, месца, дзе можна патусавацца з групай прыязьнікаў.



Варта наведаць клюб **"Більярд па Чэхаву"** вул. Віцебская, 11. Знайсьці таксама проста – побач з рэстарацыяй "Ракаўскі бровар". Тут більярд ня спорт, але адпачынак: водар спакою і раўнавагі – атмасфэра рэляксацыі. Калі табе надакучыла мітусьня гораду, калі хочацца сагрэцца келіхам чырвонага віна, супакоіцца музыкаю тваіх летуценьняў і мар – табе сюды. У гэты клюб варта хадзіць удвох ці ўтрох. Вялізная й вясёлая кампанія ня ўпісваецца ў тутэйшы інтэр'ер. "Більярд па Чэхаву" – гэта перадусім уражаньне, нібы патрапіў у старую спакойную Англію. А менавіта там, паміж іншага, і нарадзілася гульня джэнтэльмэнаў – більярд.



Калі ты вызначыўся з накірункам... Немінуча паўстае пытаньне фінансаў. Калі твой вечар пачынаецца пасьля 16 гадзінаў і цягнуцца можа ажно да раніцы, дык 1 гадзіна гульні абыдзецца табе блізу 7 000 рублёў, плюс "на піва". Але як чалавек, што бавіць час у більярдных Менску, мяркую – "на піва" можна й ня мець. У такіх установах п'юць мала.

З кім пайсьці? Тут ты вольны, тым больш, што гуляць можна й ўдзесяцёх (вельмі выгодна фінансава – плаціць за стол у складчыну).

Форма. Ты можаш прыйсьці пры гальштуку, калі табе гэтак зручна, а можаш апрануць швэдар і джынсы. Асобна хачу спыніцца на спартовым касьцюме – ня варта... Мы ж людзі інтэлігентныя. І яшчэ: мілыя мае паненкі, спаднічкі будуць пасаваць для шпацыру на вуліцах. Але не ў більярд гуляць: нязручна – гэта раз. І ўсё іншае – гэта два.

Ну вось, здаецца, і ўсё... Расповед свой пра більярд мушу заканчваць. Бо вечар ужо на вуліцы – і мяне чакае зусім іншае жыцьцё. Жыцьцё па-за прорваю праблем. Жыцьцё за більярдным сталом.

### БІЛЬЯРДНАЯ АБЭЦЭДА

*Амэрыканка – гульня на більярдзе*
*Біток ("ударны") – шар, якім б'юць па іншых шарах*
*"Васьмёрка" – назоў гульні ў пул*
*Малая руская піраміда (71 пункт) – вельмі распаўсюджаная гульня на більярдзе*
*Піраміда – шары, пастаўленыя на стале шчыльна адзін да аднаго ў пэўным парадку, якія ўтвараюць трохкутнік*
*Мэтавы шар – любы шар, акрамя бітка*
*Пул – гл. "амэрыканка"*
*Снукер – гульня, распаўсюджаная ў Англіі*
*Трохкутнік – адзін з прадметаў більярднага інвэнтару*
*Туз – шар, пазначаны лічбай "1"*
*Фол – любое парушэньне правілаў гульні*

# ГІСТОРЫЯ БЕЛ. БУЛЬБЫ

**Бульба для беларуса - болей, чым проста харчовы прадукт. Гэты карняплод зьяўляецца адным з этнавызначальных беларускіх маркераў - побач зь "беларускім" зьверам зубрам ды "беларускай" птушкай буслом. Бяз бульбы цяжка сёньня ўявіць "маленькі, але ганарысты народ". Але быў час, калі дранікамі ў Беларусі нават і ня пахла...**

ІГАР МАРЗАЛЮК

На стале эліты Рэчы Паспалітай бульбяная экзотыка зьявілася напрыканцы XVII ст. У кнізе, напісанай кухмістрам кракаўскага ваяводы Станіславам Чарнецкім, "Compendium ferculorum albo zebranie potraw" ("Усё пра стравы, альбо збор страў"), згадваецца першы бульбяны дэлікатэс: пад назваю "tertofelle" хаваецца бульба, якую пяклі ў попеле і, пакраіўшы на скрылікі, смажылі. Кніга ўпершыню выйшла ў 1682 годзе і на працягу XVIII стагодзьдзя неаднаразова перавыдавалася. Згаданая ў ёй страва яшчэ ня масавы прадукт - гэта толькі гастранамічнае вычварэньне для гурманаў.

**Уначы сяляне выходзілі на поле, старанна выкопвалі пасаджаную ўдзень бульбу і везьлі да бліжэйшай карчмы, дзе мянялі "праклятыя земляныя яблыкі" ў мясцовага габрэя на гарэлку.**

Вырошчваць бульбу ў Беларусі пачалі ў часе панаваньня караля польскага і вялікага князя літоўскага Аўгуста III (1736-63). Першым экспэрымэнтальным пляцдармам стала тэрыторыя Гарадзеншчыны. У другой трэці XVIII ст. заморскае дзіва пачало сваё трыўмфальнае шэсьце па беларускай тэрыторыі. Але вырошчвалася яно ў гэты час толькі нямецкімі каляністамі ў каралеўскіх эканоміях, а беларускі паспаліты люд недаверліва ставіўся да гэтай чортавай штуковіны - бульбу ахрысьцілі "праклятым земляным яблыкам". Самым значным бульбаводчым цэнтрам напрыканцы 80-х гадоў XVIII стагодзьдзя стала тэрыторыя Полацкага намесьніцтва. Калі ў 1788 годзе тут у "пасеве" бульба займала ўсяго 7 чвэрцяў, а ва "ўраджаі" - 21 чвэрць, то ўжо праз два гады ў "пасеве" было 4.617 чвэрцяў, а ва "ўраджаі" - 18.759 чвэрцяў.

Аднак і ў гэты час дадзеную агракультурную навацыю сялянства вітала са значнай доляй здаровага беларускага скепсісу. Толькі дзякуючы абсалютна недэмакратычнаму ўзьдзеяньню тутэйшых паноў на "пана сахі і касы", бульба ў добраахвотна-прымусовым парадку зьяўлялася на палетках. Сяляне ўпіраліся, зьдзяйсьнялі акты сабатажу. Не абыходзілася без кур'ёзаў. У пачатку XIX ст. на Магілёўшчыне жыў генэрал Гернгрос - бульбяны фанат, багаты і ўплывовы пан. Бульбу на сваіх землях ён вырошчваў з 1817 г., даваў свой улюбёны карняплод і на пасадку сялянам. Але чорта лысага! На сялянскіх гародчыках бульба амаль не ўзыходзіла, толькі дзенідзе прабіваліся асобныя кволыя каліўцы. Генэрал, на шчасьце, хутка сьцяміў, дзе сабака парыўся. Уначы сяляне выходзілі на поле, старанна выкопвалі пасаджаную ўдзень бульбу і везьлі да бліжэйшай карчмы, дзе мянялі "праклятыя земляныя яблыкі" ў мясцовага габрэя на гарэлку... Тады генэрал пайшоў на хітрасьць: замест цэлых бульбінаў сяляне атрымалі на пасадку парэзаныя. Выбіраць такую драбязу зь зямлі магілёўскія мужыкі паленаваліся, і на наступны год быў сабраны добры ўраджай.




**"Картофель занимает первое место в числе возделываемых овощей, способствует продовольствию народа, прокормлению скота и удобрению полей".**

XIX стагодзьдзе стала часам поўнай перамогі бульбы на беларускім фронце. Калі ў 1822 г. у Гарадзенскай губерні было сабрана 7.100 чвэрцяў бульбы, то ў 1827 г. - ужо ў 100 разоў болей (савецкія пяцігодкі проста адпачываюць!). У справаздачах Менскай ды Віцебскай губерняў за 1828 год адзначалася, што бульба зьяўляецца "пособием к продовольствию... родится в изобилии... с успехом повсеместно здесь разводится". У справаздачы Гарадзенскай губерні за 1840 год чытаем: "Картофель занимает первое место в числе возделываемых овощей, способствует продовольствию народа, прокормлению скота и удобрению полей".

"Бульбяны бум" даў свае станоўчыя вынікі ў галіне сэлекцыі. Ужо ў 50-я гады XIX ст. узьнікаюць нашы, беларускія гатункі бульбы. У жніўні 1853 году ў Горы-Горацкім земляробчым інстытуце адчынілася выстава, на якой экспанавалася 28 гатункаў бульбы з батанічнага саду інстытуту, а таксама прадукты з бульбы ў выглядзе мукі й крупаў. У 1868 годзе "Земледельческая газета" пісала, што ў Горацкім павеце меліся гатункі, "на кои почти не имеют влияния неблагоприятствующие обстоятельства, вредящие всем прочим. Так, например, в нашем уезде, в с.Слижах, у одного хозяина картофель ежегодно дает более десяти зерен и величиной превосходит гусиные яйца..."

Пік дарэвалюцыйнай беларускай бульбяной вытворчасьці прыпадае на 1913 г. - пасяўная плошча склала 583,3 тыс. га, ураджайнасьць - 6,4 т/га, валавы збор - 4 мільёны тон, альбо 12,6% валавога збору ў Расеі.

...Беларусь бяз бульбы - што пашпарт бяз фоткі. Сёньня гэта аксыёма. Але ж гісторыя даводзіць, што поўная і незваротная бульбашызацыя Беларусі адбылася толькі ў XIX стагодзьдзі. Менавіта ў яго сярэдзіне сьветлы вобраз гэтага карняплода глыбока ўчамярыўся ў сьвядомасьць тубыльцаў. І болей ужо, нягледзячы на ўсе імпэрыялістычна-каларадзкія подступы, адтуль не вылазіў.

# КУЛЬТУРАЛЁГІЯ АДНОЙ ГАРОДНІНЫ!

ІГАР ЛІК




**Мы тое, што ядзем. Гэты афарызм мае ня толькі біялягічны, але й культуралягічны сэнс: ежа вызначае як матэрыяльнае "начыньне" нашага арганізму, так і духоўны кантэкст нашага існаваньня. Японцы ядуць сушы, украінцы - сала, французы запіваюць віном жабіны лапкі. Кухня розных народаў зрабілася істотнай праявай іхнага мэнталітэту. Аглядаючы ў гэтым сьвятле беларускую культуру, у першую чаргу зьвяртаеш увагу на бульбу.**

Выходзячы з характару прысутнасьці бульбы, беларускую культуру можна падзяліць на чатыры пэрыяды:

1) **дабульбяны**, ліцьвінскі;
2) **першасны бульбяны**, бульбяна-вараны (другая палова XIX - першая палова XX ст.);
3) **другасны бульбяны**, пэрыяд другаснай апрацоўкі бульбы - запяканьня, тушэньня (60-80 гг.);
4) **постбульбяны**, пэрыяд разнастайных камбінацыяў бульбы зь іншымі стравамі; час уваходжаньня бульбы ў масавую культуру (канец 80 - пач. 90 гг. з магчымым выхадам на сучаснасьць).

## ДАБУЛЬБЯНЫ ПЭРЫЯД

Ліцьвінская культура прынцыпова не прымала гэтую гародніну да самага канца свайго існаваньня - прыблізна да 30-х гг. XIX ст. У кантэксьце шляхецкай культуры бульба лічылася прадуктам нездаровым і як ежа непасрэдна не ўжывалася. Шляхта рабіла зь яе муку, гарэлку, цукар - і гэтым абмяжоўвалася. У "энцыкляпэдыі" старажытнай ліцьвінскай кухні, кнізе "Літоўская гаспадыня" (першае выданьне - 1848 г.) бульба фігуруе менавіта ў такім выглядзе. Затое вялікая ўвага надаецца разнастайнай вяндліне. І не выпадкова: старажытная Літва была слаўная "паўгускамі" - вэнджанымі паловамі гуся, якія падавалі ў якасьці асобнай стравы. Ліцьвінская мясная кухня, багатая на бялкі й калёрыі, знаходзіцца ў прынцыповай апазыцыі да бульбяна-вугляводнай кухні новай беларускай культуры. Калі ліцьвінская кухня асацыюецца з груваста-пышна-мудрагелістым сармацкім барока, з параднымі партрэтамі, паліхромнай кафляй ды аб'ёмнай разьбой, дык стравы наступнага пэрыяду выклікаюць ва ўяўленьні хіба што пахілыя сялянскія хацінкі.

## ПЕРШАСНЫ БУЛЬБЯНЫ ПЭРЫЯД

Укараненьню - ва ўсіх сэнсах слова -




бульбы на нашых тэрыторыях спрыяла, у першую чаргу, тутэйшая глеба: беларускі пясок надае бульбе асаблівы смак. Істотную ролю адыграла і культурная традыцыя - у прыватнасьці, неперабарлівасьць беларускай вясковай кухні і адсутнасьць табу на пэўныя прадукты. Такім чынам, шырокае выкарыстаньне бульбы - вынік прагматычнага складу мысьленьня вяскоўца.

Напачатку бульба, вараная ў лушпайках, зрабілася асноўнай ежай сялян. У варцы прысутнічае прагматычны аспэкт: працэс гэты нескладаны, і ў ім, у адрозьненьне ад смажаньня, на першым месцы стаяць пажыўныя, а ня смакавыя якасьці. Вараная ежа - простая на смак і дэмакратычная - непарыўна зьвязаная зь вясковай культурай. Гэтымі якасьцямі яна адпавядае беларускай культуры канца XIX - пачатку XX ст., "поварам" якой быў Ф.Багушэвіч.

Цікава, што працяглы час дэлікатэсам лічылася бульба, запечаная на вугольлі. Вугольле і попел - мэдыятары ў апазыцыі "прырода/культура". Але гэтыя пасярэднікі максымальна набліжаныя да прыроды, як і сама бульба, што запякаецца ў сваім прыродным стане. Гэтая страва паказвае нам месца знаходжаньня эстэтычна "смачных" твораў новай беларускай культуры - на самай мяжы прыроднага і культурнага, дзе існуе амаль некрануты смак "натуральнага" жыцьця коласаўскай "Новай зямлі".

У гэты ж час існаваў таксама пласт культуры, які тыпалягічна адпавядаў больш складаным стравам беларускай кухні - такім, як клёцкі, камы ці бабка, што вымагаюць больш складанай, другаснай апрацоўкі бульбы. Ён зьвязаны з мадэрністычным авангардам пачатку XX ст. - зь імёнамі Язэпа Драздовіча, Марка Шагала, Зьмітрака Бядулі.

### ДРУГАСНЫ БУЛЬБЯНЫ ПЭРЫЯД

Сучасная беларуская кухня была кананізаваная ў кулінарных выданьнях прыблізна ў 60-я гг. XX ст. І бульбе ў ёй адводзіцца важнае месца. Аднак характар яе ўжываньня тут ужо прынцыпова іншы, што сьведчыць пра ўсталяваньне новай культурнай рэчаіснасьці. Па-першае, калі ў складаных стравах старой кухні - тых жа драніках, смажнях, клёцках - бульба ёсьць асноўным кампанэнтам, дык стравы сучаснай кухні найчасьцей сумяшчаюць яе зь нечым, што мае сваю выразную густэму: са сьвінінай, баранінай, грыбамі, пячонкай і г.д. Прычым бульба суіснуе з гэтымі прадуктамі як у постмадэрнісцкім зьмяшаным выглядзе - тушаная з грыбамі, баранінай, фаршыраваная мясам, селядцом і г.д., - так і ў мадэрнісцкім апазыцыйным стане - як гарнір. Па-другое, замест пераважна варанай бульбы ў сучаснай кухні на першае месца выйшла бульба тушаная, запечаная, смажаная. Гэта ўжо бульба больш складанай, другаснай апрацоўкі. Як вынік - зьяўленьне арыгінальных сынтэтычных бульбяных страў - рулету зь яйкамі, клёцак з грыбамі, картапляных пяльменяў, інш.

Характэрна, што кананізацыя новай беларускай кухні супала з пэрыядам беларускай адлігі, хай сабе і слабой. Гэта час усталяваньня новай, больш складанай культурнай рэчаіснасьці, прадстаўленай В.Быкавым, А.Разанавым, А.Марачкіным, В.Елізар'евым - рэчаіснасьці ўжо сучаснай, мадэрновай і постмадэрновай.

### ПОСТБУЛЬБЯНЫ ПЭРЫЯД




малюнкі: ALK & ISIK

Паказальна, што, маючы вялікі асартымэнт вырабаў з бульбы, беларусы так і не стварылі нацыянальнай бульбяной стравы масавага спажываньня - груба кажучы, сваіх бульбяных гамбургераў. Сям-там - у сталоўках ды ў інтэрнэце - мільгацяць дранікі. І ўсё. Нават бульба фры ў макдональдсах замежная. Магчыма, гэта тлумачыцца нежаданьнем адыходзіць ад традыцыйных беларускіх рэцэптаў апрацоўкі бульбы, якія досыць складана адаптаваць да масавай вытворчасьці. А магчыма, эпоха постмадэрну зь яе адносна якаснай масавай прадукцыяй проста не прыйшла яшчэ на Беларусь, і ў будучыні нас чакае, з аднаго боку, працяг ужываньня бульбы ў розных постмадэрновых камбінацыях зь іншымі калярыйнымі стравамі, а з другога - увядзеньне якой-кольвек бульбяной стравы ў масавую культуру. Гэта ўжо новая, постбульбяная фаза культуры, элемэнты якой мы бачым, пачынаючы з 60-х гг.

Постбульбяная культура - гэта, з аднаго боку, "Палац", "Крыві", беларускі пэрфоманс, "Ляпис Трубецкой", а зь іншага - рынкавы сацыялізм, савецкі гімн бяз словаў, Мулявін зь песьнямі пра Леніна на вершы Маякоўскага, трасянка, дзьвюхмоўныя пэрыядычныя выданьні ды Палац рэспублікі на месцы старажытнай рынкавай плошчы.

Што далей?





# КЛАВА, АСЬКА І МЫШ

## НЕКАЛЬКІ СПОСАБАЎ ЗРАБІЦЦА ЮЗЭРАМ

**Самы дрэнны выбар - адсутнасьць выбару. Некалі (гл.CD #1'02) мы ўжо разважалі пра карысьць авалоданьня кампутарнымі тэхналёгіямі, таму лекцыі пра надзённую неабходнасьць мець добрыя стасункі з глючнымі сябрамі зараз ня будуць дарэчы. Пяройдзем ад тэорыі да практыкі. Ёсьць некалькі спосабаў "абкампутарызавацца" ў інтэлектуальным сэнсе слова.**

### Спосаб першы - надакучлівы

Дзеля гэтага трэба правесьці невялічкае дасьледаваньне ў стылі KGB на прадмет таго, хто з тваіх сяброў прасунуты "юзэр", а ты, блін, пра гэта ня ведаеш. А далей... Зразумела, прысароміць, што мець за сябра такога цемрашала ў сучасных інфармацыйных тэхналёгіях, якім ёсьць ты, - ганьба і сорам для прафэсіянала ў гэтай вобласьці, якім ёсьць ён. Далей застаецца разьлічваць на закрануты гонар і прыязны настрой ад камлімэнту. Як той казаў, кліент гатоў - можна абцяжарваць якой заўгодна просьбай. Калі не атрымаецца, паўтарась да поўнай перамогі. Галоўнае - настойлівасьць і здатнасьць да выхвальных одаў.

### Спосаб другі

Пайсьці ў шапік "Белсаюздруку". Набыць газэту кшталту "Из рук в руки". Файны спосаб з карысьцю правесьці час - знайдзі патрэбныя прапановы ў патрэбнай рубрыцы - напрыклад, "Адукацыя". Для карпатлівых і ініцыятыўных.

Калі ж у табе абудзілася дагістарычнае пачуцьцё калектывізму, мы пойдзем іншым шляхам. Каб не пакідаць цябе ў самотным пошуку, дзе лепш, а дзе горш "грызьці" асновы Windows, Word, Excel ці праграмаваньня на Jav'e, C, C++ і якой іншай трасцы - міні-агляд кампутарова-адукацыйных установаў г.Менску. Зробім мы гэта па прынцыпе, як кажуць ангельцы, step by step.

### *Step#1. База*

Аснова асноваў, і г.д., і д.т.п. Натуральна, без пачатковага курсу, так бы мовіць, кампутара з "нуля" user зь цябе будзе нікчэмны. Звычайна працэс займае ад 3 да 4 тыдняў па 4-5 акадэмічных гадзін або 3 сонечныя гадзіны 5 дзён у тыдзень (натуральна, субота&нядзеля - выходныя). Большасьць установаў прапануюць ранішнія, дзённыя і вечаровыя групы. Як запэўніваюць ва ўсіх установах, асобным месцам з пэрсанальным "кампом" будзе забясьпечаны кожны. Кошты - ад 850 (заняткі ў групах па 8, максымум 12 чалавек) да 2.500 (для некампанейскіх асобаў) беларускіх рублікаў. Звычайна ў камлект уваходзяць:

- *інфармацыя для агульнага разьвіцьця* - пра тое, з чаго кампутар складаецца, як гэта правільна назваць і навошта гэтае прыстасаваньне патрэбнае;
- *правілы захаваньня, капіяваньня і іншых актыўных дзеяньняў у дачыненьні да інфармацыі;*
- абавязкова - *праца зь Windows і Word, звычайна разам з навучаньнем, як паводзіць сябе ў Excel, а таксама ў некаторых выпадках - Microsoft Outlook і Microsoft Power Point. Часам асобным пунктам праходзіць Internet.* Асіліць прынцыпы працы ў сусьветным павуціньні можна за 10 гадзінаў навучаньня і прыкладна 25.000 рублёў. У большасьці курсаў Інтэрнэт і "е-мыл" уваходзяць у камплект адукацыйнай праграмы.

Для тых, каму лянота наведваць кожны дзень заняткі, не зусім пунктуальных асобаў і проста неталерантных пэрсонаў, ёсьць добрае выйсьце - курсы ESCO (ЕШКО), школы карэспандэнцкага навучаньня. Кампутарная абэцэда разьлічаная на 12 месяцаў і "пацягне" ў пераліку з BLR прыкладна на 80 даляраў за ўвесь курс, або больш за 10$ штомесяц з пэрспэктывай зьніжкі каля 30%. Яшчэ адзін надзвычай патрэбны курс - машынапіс. 6 месяцаў, 40 у.а. - і хуткасьць сьвятла пры наборы тэкстаў вам забясьпечаная. Можна навучыцца гэтаму і таньней, і значна хутчэй - 1 месяц і 30 даляраў пры індывідуальных занятках у навучальным цэнтры "Прэстыжінфармсэрвіс" зробяць зь цябе юзьвера. Акрамя гэтага існуюць падобныя курсы і пры БДУ, у дадатак - з выкладаньнем прынцыпаў стэнаграфіі. А яшчэ ёсьць спэцыяльная праграмка на CD, пры дапамозе якой можна самастойна вывучыць усе літаркі на клявіятуры.

### *Step#2. Спэцыялізаваныя праграмы*

Пачнем з графікі й праграмаў вёрсткі. Зразумела, Photoshop, CorelDraw і PageMaker. Большасьць установаў прапануе навучыць працы ў Photoshop і CorelDraw за 60-90 гадзінаў. Каштуе гэта прыкладна 60-65 умоўных адзінак (пры занятках у групе). Тым ня менш, установа з доўгім назовам "Інстытут падвышэньня кваліфікацыі й перападрыхтоўкі кадраў па новых кірунках разьвіцьця тэхнікі, тэхналёгіі і эканомікі" прапануе ўвесьці ў курс справы індывідуальна і за 20 гадзінаў. Пэрсанальны падыход - $2 за гадзіну. PageMaker "вылеціць" у 1,5 месяцы па часе і ў 20 зялёных па грашох.

Анімацыя 3DS MAX абыйдзецца для мультафілаў у суму 60- 90 у.а., а палегчыць працэс праектаваньня і крэсьленьня можна пры дапамозе AutoCAD (70-74 у.а.).

Спасьцігнуць асновы вэб-дызайну можна, акрамя ЭГУ, у "Альгарытме" і "Стахіс і ФІТР БДПА" - 70 гадзінаў (чытай - даляраў). Разам з гэтым тая ж установа прапануе дызайн-адукацыю з усімі прыбабахамі - малюнак, кампазыцыйнае праектаваньне і г.д. Па заканчэньні - сэртыфікат.

Больш-менш паважныя ўстановы прапануюць таксама навучаньне мовам праграмаваньня: C, C++, Java.

Усе агенцыі па заканчэньні курсу выдаюць пэўныя сэртыфікаты пра пасьпяхова засвоеныя табою веды.

**<u>РНМВЦ "Альгарытм"</u>, т.257.58.60, 251.80.63 - увесь спэктар кампутаровых паслугаў.**
**<u>Інстытут падвышэньня кваліфікацыі й перападрыхтоўкі кадраў па новых накірунках разьвіцьця тэхнікі, тэхналёгіі і эканомікі</u>, т.285.46.67, 245.52.22 - Office, графіка, мовы праграмаваньня.**
**<u>Навучальны цэнтар "Прэстыжінформсэрвіс"</u>, т.239 13 25 - камплект Office, Internet, E-mail, машынапіс.**
**<u>Навучальны цэнтар "Галяктыка"</u>, т.206.60.65 - кампутарызаваны офіс.**
**<u>ВЦ "Стахіс і ФІТР БДПА"</u>, т.206.56.26, 227.46.66 - увесь набор кампутаровых курсаў.**
**<u>Факультэт маркетынгу, мэнэджмэнту, прадпрымальніцтва БДПА</u>, т.239.91.05, 239.91.91 - камплект Office, Internet, E-mail.**
**<u>Цэнтар інфармацыйных тэхналёгіяў БДУ</u>, т.209.50.92 - кампутар з "нуля", уключаючы Windows, Word, Excel.**








**Kylie**
**Fever**
**[p] Parlophone 2001**

**Саракапяціхвілінная аўдыенцыя каралевы disco.**
Гэты альбом мог паставіць кропку ў казе "Няхай жыве аднаўленае disco". Тады, фігуральна, запанавала б гістарычная справядлівасьць: для вэтэранкі танцполаў Кайлі Міноўг падобнага кшталту музыка стала спосабам зарабленьня грошай тысячу год таму, калі сучасных "поппрынцэс" бацькі вучылі карыстацца бытавой аўдыётэхнікай.
Празь Fever Кайлі стала безумоўнай фаварыткай у шэрагу бліскуча-пярэстых сьпявачак зь бляскам на пухлых вуснах і неўтаймаванымі прадусарамі за сьпінамі. Нашая каралеўна лішні раз прадэманстравала, што ў промнях старажытных сафітаў і дротах дапатопных мікрафонаў яна беспамылкова знаходзіць шлях да сэрцаў слухачоў.
Fever стаў дужа прыемнай нечаканасьцю пасьля манатоннага і змрочнага Kylie (2000) - у варыянце 2001 Міноўг загучала ўпэўнена, а не надумана. Шыкоўныя аранжыроўкі і саўнд-прадусэрынг ня толькі вытрымалі нейкія новыя стандарты, але прыўнесьлі новую гукавую эстэтыку, прынамсі, зрабілі яе агульнадаступнай. Атрымалася амаль як з орбітаўскай Music: мінімум натуральных гукаў і інструмэнтаў, мінімум жывой Мадоны, процьма сынтэтыкі ва ўсім - і першыя месцы ў гіт-парадах. Што да Кайлі, ейнаму голасу і вобразу таксама пашэнціла сутыкнуцца з новымі тэхналёгіямі, вынікам якіх стаў дыска-стэрыльны сынгл Can't get out of my head, пасьля - In your eyes і астатнія творы. Кайлі знайшла ў сабе сілы канчаткова прасіліконіць уласнае эга, чым заслужыла права паставіць у праанансаванай напачатку фразе ня кропку, а клічнік.






**Neo**
**Слышишь, Земля**
**[c], [p] Westrecords 2002**

**Як зрабіць айчынны гіт: Дапаможнік для абітурыентаў.**
Некалькі год таму ў выніку мазгавога штурму альтэрнатыўная банда Flammable трансфармавалася ў радыёфарматны гурт Neo, існаваньне якога, па задуме аўтараў, мусіла засьведчыць новую фазу разьвіцьця айчыннай шоў-індустрыі. Час мінае, і пакуль усё, і ў першую чаргу рэліз, паказвае на незайздросную разьвязку ў стылі "Тараса Бульбы".
Тое, што дзіцянё індустрыі прэтэндуе хутчэй на статус ахвяры, пачынаеш разумець ужо з другой часткі альбому, калі невыносная мэлянхолія ў такт музыцы зьмяняецца то шаленствам, то бяздумнай тугою, то атрафіраваньнем калямузычных рэцэптараў. Нястройныя вакальныя партыі a la, інструмэнтальныя алюзіі не раздражняюць - у рэшце рэшт, любая даведкавая літаратура карысная тым, што ў ёй можна пазнаёміцца з кароткім пераказам клясыкаў. Іншая справа, наколькі даходлівая гэта робіцца.
Тая колькасьць тлустых адбіткаў пальцаў розных гукарэжысэраў, якая засталася на гуку Neo, тая колькасьць так і не зрэалізаваных спробаў зрабіць хоць які закончаны гіт, уводзіць у ступар. Небанальныя гітарныя партыі Маркуца і тэксты Касалапава ў гэткім кантэксьце толькі падкрэсьліваюць поўную бездапаможнасьць.






**Lamb**
**What sound**
**[c], [p] Mercury 2001**

**Цяжка быць арыгінальным у апошняй фазе разгулу постмадэрнізму.**
Два гады, якія прайшлі па Fear of Fours, Andy Barlow і Louise Rhodes бавілі ў бясконцых калябарацыях, якія фактычна перарасталі ў абмен досьведам паміж музыкамі розных кірункаў і стыляў. Lamb, для творчасьці якога заўжды актуальнай застаецца праблема арыгінальнасьці, гэтым разам ня здолелі прэзэнтаваць нешта надзвычайнае. Шаблённыя хады і імпульсы, намяшаныя на праджазаваным drum'n'bass, пяшчотны голас Lou, б'ёркападобны час ад часу, і калёны калегаў па цэху: Jimi Goodwin, Scratch Perverts, Me'Shell NdegeOcello, Arto Lindsay, Michael Franti і more .
What sound не прэтэндуе на ролю "Откровения". Lamb занялі зручную пазыцыю канфармістаў, якія здольныя задаволіць густы прагных да лёгкай экзотыкі і экспэрымэнтаў тых спажыўцоў мэйнстрыму, што дзеля пашырэньня музычных даляглядаў знаходзяць сілы паслухаць пасьля якогакольвеч Jamiroquai нешта больш складанае па структуры. Калі вы адносіцеся да такіх, раім загалоўную кампазыцыю, калі вам папросту трэба быць у курсе падзей, раім паслухаць дзесяціхвілінную Just Is, дзе восем хвілін - цішыня.







кампакты прэзэнтаваныя крамай "МИСТЕРИЯ ЗВУКА"









**No Doubt**
**Rocksteady**
**[c], [p] Universal 2001**

**Ніхто і спадзявацца ня мог, што вяртаньне з Сатурну будзе такім пасьпяховым.**
Здавалася, што ад Гвэн з талакой чакаць нечага новага ўжо не выпадае. У наяўнасьці быў стандартны набор: пара-тройка гітоў, некалькі ўнутрыгрупавых скандалаў, якія пагражалі збэсьціць славу No Doubt, і шчасьлівы шлюб з фронтмэнам Bush. Назіральнікі небеспадстаўна чакалі хуткай разьвязкі...
Калі памятаеце, папярэдні альбом выбухнуў толькі адным гітом - імклівай песенькай ExGirlfriend. У адрозьненьне ад таго, Rocksteady падобны да нашпігаванай рознай непатрэбшчынай дзявочай касмэтычкі: яркія памада і туш, танныя накладныя пазногці зь мінізавушніцай, плястмасавая біжутэрыя, мініятурныя мядзьведзікі і лялькі, жуйкі, прэзікі і іншая драбяза. І паспрабуй што-кольвек выкінуць - зьнікне ўся арыгінальнасьць. Ад клясычнага року 90-ых у альбоме засталіся толькі самі музыкі: на зьмену цяжкім патасу і цынізму пакліканы нігілізм лёгенькіх запамінальных мэлёдыяў, нечаканых скрэтчаў і звар'яцелых прадусараў, якія выраблюць усё што заўгодна. На ўсьвядомленасьць магчымых наступстваў дадзеных дзеяньняў указвае тое, што сопрадусарам кожнай кампазыцыі выступіў сам No Doubt - вяртаньне з Сатурну не было выпадковым?






**Shakira**
**Laundry Service**
**[c], [p] Epic 2001**

**...Стары Garcia Marquez нас блаславіў...**
"Яна стварыла свой непаўторны стыль, непадобны да іншых. Ніхто ня ўмее сьпяваць і танчыць, як яна", - так банальна, але дакладна сказаў пра Shakira Mebarak, дачку калюмбійскага народу, ляўрэат нобэлеўскай прэміі Gabriel Garcia Marquez у адным са сваіх інтэрвію. "Блін, фіг зразумееш яе ангельскую, але Shakira прыкольна пяе і круціць клубамі", - так экспрэсіўна выразіўся пра новую зорку Epic адзін з фэнаў.
Гэты ангельскамоўны дэбют Shakira дадае новыя аргумэнты на карысьць лацінаамэрыканскай музыкі. Уражвае нават ня тое, што калюмбійка на галаву вышэй за Jay Lo - гэта хутчэй заканамерная рэакцыя рынку на бясконцыя і надакучлівыя крэольскія напевы - Shakira па-сапраўднаму натуральная, дзікая і сэксуальная. Для яе найважней голас - гнуткі, арыгінальны інструмэнт у руках дачкі лібанца. Што да музыкі, то тут пачуеце рэмінісцэнцыі і на Cure, і на Nirvana, і на Led Zeppelin - на апошніх донна ледзь ня моліцца.
Адно што пры праслухоўваньні паспрабуйце не заблытацца ва ўсёй гэтай этна-стракатасьці: небясьпека згубіць у пунктах праньня бялізны сваіх рэчаў сярод чужых апранахаў надзвычай высокая.






**Macy Gray**
**The ID**
**[c], [p] Epic 2001**

**Хрыпатая чараўніца, здольная песьнямі пра ўсепераможнае дабро і любоў ды Marilyn'a Manson'a вярнуць у лона царквы.**
Ужо дэбютная плыта On How Life Is засьведчыла зьяўленьне ў афра-амэрыканскім музычным сьвеце цалкам новага і непаўторнага пэрсанажу. Macy, маленькай жанчыны з голасам праступджанай Tina Turner і шармам Whoopee Goldberg, удаецца сумясьціць у музыцы выразныя водгалаcкі шчасьлівага дзяцінства, пры гэтым не скаціцца да дурнаватай інфантыльнасьці. Па настроі ўсё гэта нагадвае галівудзкія камэдыі катэгорыі В, дзе галоўныя героі, пераадолеўшы процьму перашкодаў, заканчваюць сваё экраннае жыцьцё зь бісквітным крэмам на твары, пры алтары, дзе царкоўны хор зь песьнямі і пляскамі, пад заўвагі дырыжора гучна абвяшчае: Everybody shaking!
Пад фанкавы акампанэмэнт - то паволньны, у такт дыханьню, як у Don't come around, то дзіка імпрэсіўны, як у Relating to a psychopath, Macy гарэзіць на ўсю моц, апагеем чаго становіцца "Oblivion", выдатны бонус да саўндтрэку "Bugsy Mellone".

*вушы – Сяргей Сахараў*

# КУДЫ НІЛЬС ГУСЕЙ ГАНЯЎ

**Калі аб'яднаць пэрсаналіі, падораныя Швэцыяй сьвету, то Карлсан будзе гарлаць знакамітае "справа жыцейская" ў складзе ABBA, дзядзька Нобэль будзе ўручаць дынаміт у выглядзе суцяшальнай прэміі Карлу XII пад акампанімэнт Roxette, і ўсё гэта будзе адбывацца ў змрочным антуражы фільмаў Бэргмана. Шчодра, праўда?**




**Пункт #1. Краіна GEO**

Плошча Швэцыі складае 450 000 кв. кілямэтраў, а вось насельніцтва нават меншае, чым у Беларусі - крыху больш за восем мільёнаў. Значная частка Швэцыі ляжыць за Палярным колам, дзе ўмовы не дазваляюць сяліцца непадрыхтаваным да цяжкасьцяў людзям. Гэтым і тлумачыцца малая колькасьць насельніцтва на такіх вялікіх абшарах.

**СТАЛІЦЫ: mini й maxi**

Афіцыйнай сталіцай Швэцыі ёсьць Стакгольм, які тубыльцы ласкава клічуць "паўночнай Вэнэцыяй", бо горад стаіць на 14 выспах паміж возерам Мэларэн і Балтыйскім морам. Архітэктурай ён нагадвае Санкт-Пецярбург ці Рыгу. Зрабіце ў жыцьці нешта значнае - і вы трапіце ў стакгольмскую Ратушу, дзе штогод праходзіць баль пасьля ўручэньня Нобэлеўскай прэміі. Са Стакгольмам па прыгажосьці й па значнасьці канкуруе Гётэборг - другі па велічыні горад у Швэцыі, важны прамысловы цэнтар з буйным портам. Стакгольмцы і гётэборжцы ўвесь час спрачаюцца, чый горад лепшы. Аднак спрэчкі



гэтыя - хутчэй ад пабытовага патрыятызму, чымся ад варожасьці: сам факт, што Швэцыя ўжо больш за дзьвесьце год не ўступала ў войны, сьведчыць пра міралюбства нацыі.

**МАНАРХічны аблом**

Швэцыя - краіна з канстытуцыйнай манархіяй. І трэба адзначыць, што народ ве-е-льмі любіць каралеўскую сям'ю і ганарыцца ёю. Штогод швэды адзначаюць дзень народзінаў цяперашняга караля - Карла XVI Густава, а моладзь зь цікавасьцю сочыць за прыватным жыцьцём будучай каралевы Швэцыі, а пакуль што прынцэсы - Вікторыі. Якой, трэба сказаць, вельмі пашанцавала. Па ранейшым заканадаўстве толькі мужчыны маглі каранавацца на швэдзкі трон, але, каб зраўняць правы жанчын і мужчын, парлямэнт прыняў рашэньне, паводле якога старэйшы зь дзяцей каралеўскай сям'і атрымлівае карону - незалежна ад полу. Так што малодшы брат Вікторыі Карл Філіп застаўся ні з чым...

Швэдзкім гербам ёсьць выява трох карон. Чаму трох? Прычына гэтаму вельмі простая: адна для караля, другая - для каралевы, а трэцяя... для каралеўскага сябра...

**Пункт #2. Швэдзкія міталёгіі**

**кіНО**

Нашыя галовы ўтрымліваюць багата мітаў пра швэдаў, якія часта стаюцца прычынай кур'ёзаў. Прыкладам, панятак "швэдзкая сям'я" зьявіўся пасьля дэманстрацыі ў СССР швэдзкага фільму (якога канкрэтна, высьветліць нам не ўдалося, але ёсьць падазрэньні на пару-тройку стужак Бэргмана), дзе распавядалася пра альтэрнатыўнае сямейнае жыцьцё ўтрох. Кіно настолькі растрывожыла душэўныя раны савецкага гледача, што той і прыжыў вышэйназваны панятак.

Яшчэ пра кіно. Па сакрэце адкрыем, што Інгмар Бэргман быў ня першым, хто пачаў уводзіць моду на швэдзкасьць у кінематограф. Першай прадстаўніцай сонечнае Швэцыі ў сусьветнай кінаіндустрыі сталася Грэта Луіза Густаўсан, вядомая нам як "Дама з камэліямі". Так, Грэта Гарба была швэдзкай падданай. Больш за тое, першыя тры фільмы зь ёю - "Бадзяга Пітэр" (1922), "Сага пра Йеста Бэрлінга" (1924) і "Бязрадасны завулак" (1925) - выйшлі ў Швэцыі. І толькі ў 1925 яна была перакупленая галівудзкай "Мэтра Голдвін Мэйер".

**BABY-куміры і пераКЛАДчыкі**

Сёньня не без падстаў можна казаць пра швэдзкую руку ў нашым выхаваньні. Дастаткова толькі згадаць куміраў нашых пялёнак - Карлсана, Пэпі Даўгую Панчоху ці Нільса з усім ягоным гусіным (пардон!) касяком.

Дык вось, што датычыцца ўжо двойчы памянёнага тут Карлсана, то швэдзкія дзеці яго ня надта шануюць: папершае, за сквапнасьць, а па-другое, за бессаромнае выкарыстаньне з карысьлівымі мэтамі наіўнага Малога. А вось Пэпі Даўгая Панчоха (якую насамрэч клічуць Піпі) дагэтуль мае прызнаньне маленькіх швэдзікаў. А ўсё з-за яе высокіх маральна-этычных прынцыпаў.

Кніжка ж Сэльмы Лагерлёф "Падарожжа Нільса з гусямі" наагул дайшла да нас у надзвычай "перакілбашаным" выглядзе. Яе пажадана чытаць у арыгінале, бо тое, што для нас было ўсяго толькі захапляльнай казкай, насамрэч стваралася як падручнік па геаграфіі для дзетак. Аднак старанныя перакладчыкі як маглі папрыбіралі складаныя для вымаўленьня назвы швэдзкіх гарадоў ды рэгіёнаў, і навучальны аспэкт кніжкі пасьпяхова ляснуў.

**Стол**

Што яшчэ ў нас са швэдзкага на слыху? Ага, "швэдзкі стол". Па-сапраўднаму ён завецца "buffet", хаця паходзіць са Швэцыі і мае там назву "канапкавага стала" (па-швэдзку "smargasbord").

**АЛЬКАголь**

Пра швэдаў існуюць вельмі супярэчлівыя меркаваньні, што да іхных сымпатый да напояў. Адны кажуць, швэды п'юць вельмі мала. Іншыя згадваюць легенды пра паромы з Польшчы ды Латвіі ў Швэцыю, на якіх паўсюль натыкаесься на не зусім (зусім не-?) цьвярозых скандынаваў. І тое і другое - міты. Але з доляй праўды. Алькаголь і цыгарэты ў Швэцыі абкладаюцца надзвычай высокімі падаткамі, таму большасьць швэдаў вырабляюць агнявую ваду ў хатніх умовах (ну, гоняць яны сэма, што ж тут паробіш!). Але частуюцца гарэліцай скандынавы не ў вялікіх колькасьцях, а так - дзеля сугрэву ў складаных кліматычных умовах. Калі ж наступае законны адпачынак - грэх не расслабіцца. Менавіта ў такія сакральныя моманты рэляксацыі і магчыма ўбачыць п'янenькага швэда. А калі пашанцуе, нават сфатаграфаваць яго.

**Пункт #3. Лікбез**

Сутыкнуўшыся са швэдам на вуліцы, варта ведаць, як зь ім павітацца: Hej!!!!

Пасьля прыемнага "тусэ" варта ведаць, як разьвітацца: Hej- Hej!!!!

А калі ён вам падорыць на памяць традыцыйны швэдзкі сувэнір, - чырвонага расьпісанага канька, - не забудзьце аддзячыць: Tack-tack!!!

**Вера Кавалькова**





## Каб падпісацца на "CD",

***трэба:***

**- запоўніць абанэмэнт;**

**- паштовым пераводам пералічыць адпаведную суму на разьліковы рахунак рэдакцыі часопісу "Студэнцкая думка": 3012210040010 Сталічнае аддзяленьне АКБ "БелБізнэсБанк", г. Менск, код 112;**

**- запоўнены абанэмэнт разам з квітанцыяй аб паштовым пераводзе даслаць па пошце ў рэдакцыю: Менск-30, 220030, а/с 90.**

***Умовы:***

**- абанэмэнт трэба даслаць да 10-га любога месяца, каб атрымліваць часопіс з наступнага месяца;**

**- падпісацца можна на адзін, тры ці шэсьць месяцаў;**

**- кошт падпіскі на месяц - 400 рублёў.**

## Центр Культурных Обменов

Centre For Cultural Exchanges

АГЕНТСТВО НЕ ДЛЯ БАБУШЕК И ДЕДУШЕК

# WORK & TRAVEL USA



уладальніку гэтага купона

30 у.а.

ЗЬНІЖКА

Сурганава 47
(Інтэрнат БДПА)

202 00 81
231 16 93

Ліц. #925 ад 11.12.2000 да 11.12.2005

## РЭСПУБЛІКАНСКІ ЦЭНТАР КАНТАКТНАЙ КАРЭКЦЫІ ЗРОКУ

# "БЕЛОФТООПТИКА"

**КАНТАКТНЫЯ ЛІНЗЫ**
*АЙЧЫННЫЯ І ІМПАРТНЫЯ*

**СРОДКІ ДОГЛЯДУ ЗА ЛІНЗАМІ**
*ШЫРОКІ ВЫБАР*

*вул. Сурганава, 54 ...............232-51-94*
*пр. "Известий", 3 .............270-20-47*
*вул. Броўкі, 7.......................232-25-27*

СТУДЭНТАМ І ШКОЛЬНІКАМ - ЗЬНІЖКІ

*КАНСУЛЬТАЦЫІ ПА ПРАФІЛАКТЫЦЫ ХВАРОБАЎ ВАЧЭЙ*

*231-48-22*

Ліц. №16 ЛТ ад 24.12.1999 да 24.12.2004



# ОЛИМП

*Продается все, покупается лучшее!*

ВЦ "ОЛИМП", г.Менск, вул.Я.Коласа,3 т.239-33-35

